**А. Р. Гуляева**
**С. А. Прастакова**
**С. М. Кабачэўская**

# МУЗЫКА

Вучэбны дапаможнік для 4 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мінск
"Адукацыя і выхаванне"
2008

УДК 78(075.2=161.3=161.1)
ББК 85.31я71
Г94

Р э ц э н з е н т ы: *Т. П. Каралёва*, загадчык кафедры тэорыі і методыкі выкладання мастацтва Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, дацэнт, кандыдат педагагічных навук; *Н. П. Карпава*, метадыст вышэйшай катэгорыі ўпраўлення вучэбна-метадычнай работы Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.

Умоўныя знакі:

 — гэта трэба ведаць

 — спявайце па нотах

**Гуляева, А. Р.**

Г94 Музыка: вучэб. дапам. для 4-га кл. агульнаадук. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. Р. Гуляева, С. А. Прастакова, С. М. Кабачэўская. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2008. — 144 с. : іл.

ISBN 978-985-471-263-5.

**УДК 78(075.2=161.3=161.1)**
**ББК 85.31я71**

**ISBN 978-985-471-263-5**

## Дарагія сябры!

Музыка — вечны спадарожнік чалавека. Яна суправаджае яго на працягу ўсяго жыцця. Разам з музыкай людзі працуюць, адпачываюць. Музыка адлюстроўвае навакольны свет і стан чалавечай душы. На ўроках музыкі вы даведаецеся шмат цікавага пра нашу Радзіму — Беларусь — і пра людзей, якія жывуць тут.

Вы далучыцеся да скарбаў беларускай народнай песні. Гэта сапраўдная скарбонка чалавечых пачуццяў, карцін прыроды, звестак пра гістарычныя падзеі. На ўроках загучаць беларускія народныя інструменты і інструменты, запазычаныя нашымі продкамі ў іншых народаў. Вы пазнаёміцеся з народнымі песнямі і танцамі, якія выконваліся ў вёсках і гарадах, замках і палацах. Сустрэнецеся з беларускай сучаснай музыкай і адчуеце яе асаблівыя рытмы.

У гэтым годзе вас чакаюць незвычайныя музычныя падарожжы. Вы будзеце вандраваць па Беларусі, завітаеце да суседзяў і пабываеце на іншых кантынентах. З дапамогай музыкі вы зможаце наведаць мінулае і будучыню.

Вы даведаецеся пра асаблівасці музыкі народаў, якія здаўна жывуць у Беларусі, пазнаёміцеся з еўрапейскай, азіяцкай, афрыканскай і амерыканскай му-

зыкай. Атрымаеце магчымасць прасачыць, як пэўныя рысы замежнай музыкі адбіліся ў музычным мастацтве Беларусі.

Немагчыма ўявіць музыку без кампазітара, выканаўцы і слухача. Вы даведаецеся пра асаблівасці творчай працы кожнага з іх, паспрабуеце выступіць у кожнай з гэтых роляў. Будзеце вучыцца спяваць і іграць на музычных інструментах, уважліва слухаць музыку і нават самастойна ствараць яе. Настаўнік музыкі дапаможа вам набыць адпаведныя веды і ўменні. Таксама вы атрымаеце магчымасць пазнаёміцца з вядомымі кампазітарамі і выканаўцамі нашай краіны.

У добры шлях!

# ПЕРШАЕ ПАЎГОДДЗЕ
# Музычная культура Беларусі

## БЕЛАРУСЬ — МАЯ РАДЗІМА

О Беларусь, мая калыска,
Жыццё маё, прытулак мой!
З гарачаю любоўю нізка
Схіляюся перад табой...

*П. Глебка*

Кожная краіна мае свае сімвалы. Гэта герб, сцяг і гімн.



Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь



Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь



**Гімн — гэта ўрачыстая песня.**

Дзяржаўны гімн выконвае хор у суправаджэнні сімфанічнага аркестра. Аркестравую партытуру гімна склаў народны артыст Рэспублікі Беларусь кампазітар Яўген Глебаў.

Існуе спецыяльны ўзор правільнага выканання гімна. Ён вызначае правільны тэмп, сілу гуку і характар выканання. Захоўваецца гэты ўзор у спецыяльным сховішчы. Ён аднаўляецца кожныя два гады.

Дзяржаўны гімн заўсёды выконваюць стоячы.



## Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь

Словы М. Клімковіча, У. Карызны

Музыка Н. Сакалоўскага

**Урачыста, велічна**

*mf*

Мы, бе - ла - ру - сы, – мір - ны - я

лю - дзі, сэр - цам ад - да - ны - я

род - най зям - лі. *f* Шчы - ра ся -

бру - ем, сі - лы гар - ту - ем

мы ў пра - ца - ві - тай, воль - най сям' - і.


mf Прыпеў:
Слаў - ся, зям - лі на - шай свет - ла - е і - мя,


слаў - ся, на - ро - даў бра - тэр - скі са - юз!


На - ша лю - бі - ма - я ма - ці – Ра - дзі - ма,


1.
веч - на жы - ві і квіт - ней, Бе - ла - русь!


2.
// веч - на жы - ві і квіт - ней, Бе - ла - русь!


Для заканчэння
ff
// веч - на жы - ві і квіт - ней, Бе - ла - русь!

Мы, беларусы, — мірныя людзі,
Сэрцам адданыя роднай зямлі.
Шчыра сябруем, сілы гартуем
Мы ў працавітай, вольнай сям'і.

Прыпеў:
Слаўся, зямлі нашай светлае імя,
Слаўся, народаў братэрскі саюз!
Наша любімая маці-Радзіма,
Вечна жыві і квітней, Беларусь!

Разам з братамі мужна вякамі
Мы баранілі родны парог,
Ў бітвах за волю, бітвах за долю
Свой здабывалі сцяг перамог!

Прыпеў.

Дружба народаў — сіла народаў —
Наш запаветны, сонечны шлях.
Горда ж узвіся ў ясныя высі,
Сцяг пераможны — радасці сцяг!

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. Якія пачуцці ён у вас выклікае?
2. Пры дапамозе якіх выразных музычных фарбаў аўтары ствараюць велічны, урачысты характар гімна?
3. Развучыце Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь.

4. Падумайце, як трэба выконваць гімн, каб падкрэсліць яго характар.



**Звярніце ўвагу на тое, што асобныя склады спяваюцца на некалькі гукаў. Такі выканальніцкі прыём называецца распевам.**

## Радзіма, мая дарагая

Словы А. Бачылы — Музыка У. Алоўнікава



Шчырым пачуццём любові да сваёй краіны прасякнута песня кампазітара Уладзіміра Алоўнікава на словы Алеся Бачылы «Радзіма, мая дарагая».

Уладзімір Алоўнікаў
(1919—1996)

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Вылучыце ў ёй галоўную інтанацыю. Прасачыце за яе развіццём.
2. Адлюструйце развіццё мелодыі пластычнымі рухамі рук. Як бы вы ахарактарызавалі мелодыю гэтага твора?

3. Вызначыце будову твора. Ці аднолькавы характар запеву і прыпеву?

4. Чаму кампазітар не прадугледзеў выканання прыпеву ў апошнім куплеце? Як гэта звязана з галоўнай думкай песні?

Інтанацыя гэтай песні стала пазыўнымі Беларускага радыё.



## Пазыўныя Беларускага радыё



Вобразы роднага краю часта натхняюць кампазітараў і паэтаў. Іх творы апавядаюць пра бясконцыя прасторы роднай зямлі, шчырасць і працавітасць беларускага народа, яго слаўнае мінулае і светлыя мары.



## Наша Радзіма

Словы Л. Глінскай — Музыка А. Безенсон




доб - ра - я, шчы - ра - я ма - ці у - смеш - ка,


змал - ку на-дзей - на - я баць - кі ру - ка.

Прыпеў:


f
Сён-ня і заўт-ра і - дуць не - раз - луч - на,


звон - ка - я пес - ня ля - ціць над Зям - лёй.


Мы га - на - рым - ся сва - ёй Бе - ла - рус - сю,


лёс наш і ма - ры на - век з ёй ад - ной.


Мы га - на - рым - ся сва - ёй Бе - ла - рус - сю,


1.2.3.
Для заканчэння
лёс наш і ма-ры на - век з ёй ад - ной // век з ёй ад - ной.

Школьная парта, адкрытая кніга,
Дружнай дзятвы шматгалосы званок.
Мы — гэта заўтра вялікай краіны,
Золак ружовы, што бачны здалёк.

Прыпеў.

Мы падрастаем, нас клічуць прасторы,
У свеце спакусаў усіх не злічыць.
Толькі сцяжынку да роднага дому,
Дзе б ні былі мы, не зможам забыць.

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Якія пачуцці выклікае ў вас песня?
2. Ці мае яна агульныя рысы з песняй «Радзіма, мая дарагая»?
3. Вызначыце будову твора. Ці аднолькавы характар выканання запеву і прыпеву?
4. Развучыце песню. Падбярыце выканальніцкія фарбы — тэмп, сілу гуку, характар гукавядзення для запеву і прыпеву.
5. Складзіце выканальніцкі план песні. Прадугледзьце выкананне хорам, салістамі, ансамблем.

# ПЕСНІ МАЙГО КРАЮ

Песня, як і хлеб наш надзённы, — неразменнае багацце.

*Генадзь Цітовіч*

Беларусы — шчыры і ветлівы народ. Вітанні і пажаданні беларусаў ідуць з самага сэрца, атуляюць цеплынёй. Найбольш распаўсюджаны вітанні «Добры дзень», «Прывітанне» і іншыя. Часта словы вітання складаюцца калектыўна, групай людзей.



**Вітанне Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча (на аснове вясельнай народнай песні «Частуйцеся, госці»)**

Словы ўдзельнікаў хору — Апрацоўка М. Сіраты

Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь заснаваны ў 1952 годзе. Яго заснавальнік — вядомы фалькларыст Генадзь Іванавіч Цітовіч. Сёння хор носіць яго імя.

Славуты калектыў прадстаўляе Беларусь ва ўсіх краінах свету. У яго рэпертуары асноўнае месца зай-

маюць беларускія народныя песні. У склад калектыву таксама ўваходзяць танцавальная і аркестравая групы.



Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча

**Пытанні і заданні:**

1. Паслухайце музычнае вітанне. Як музыка дапамагае зразумець характар беларусаў? Якія рысы характару ўласцівы нашым людзям?

2. Выберыце прывітанне, якое найбольш вам падабаецца. Паспрабуйце выразна вымавіць яго. Прасачыце за інтанацыяй.

3. Намалюйце інтанацыю ў выглядзе лініі. Прыдумайце да гэтай лініі мелодыю. Праспявайце музычнае вітанне, якое ў вас атрымалася.

У беларускай народнай песні часта сустракаецца чаргаванне мажору і мінору. Гэты прыём называецца **ладавая пераменнасць**. Ладавая пераменнасць народнай песні спрыяе ўвасабленню найбольш тонкіх адценняў чалавечых пачуццяў.



## Бачыць маё вочка, што край недалёчка

### Беларуская народная песня

Стрымана

Ба-чыць ма-ё воч - ка, што край не-да - лёч - ка. Ба-чыць і дру - го - е, што йшчэ го - ней тро - е.

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце песню па нотах. Вызначыце, дзе ў ёй адчуваецца мінорны, а дзе мажорны настрой.

2. Зрабіце «колеравую выяву» песні, ужываючы адпаведныя настрою фарбы.

Беларусы — вельмі працавіты народ. Нашы продкі руплівай працай стваралі багацце роднай зямлі. Адначасова ўзнікалі песні, у якіх адлюстроўваліся розныя віды працы. Гэтыя песні спявалі ў час сенакосу, жніва, церабленне льну. Звычайна меладыя і рытм гэтых песень адлюстроўвалі характар працы.



## Ох, і сеяла Ульяніца лянок
### Беларуская народная песня












Ох, і сеяла Ульяніца лянок.
Ох, і сеяла Іванаўна лянок.

Прыпеў:
Ох, сэрца лянок,
Мая радасць ты, лянок,
Ўсё бялюсенькі кужалёк!

Ох, палола Ульяніца лянок.
Ох, палола Іванаўна лянок.

Прыпеў.

Ох, і рвала Ульяніца лянок.
Ох, і рвала Іванаўна лянок.

Прыпеў.

А сарваўшы, у снапочкі ставіла,
А сарваўшы, у снапочкі ставіла.

Прыпеў.

Ох, і слала Ульяніца лянок,
Ох, і слала Іванаўна лянок.

Прыпеў.

Ох, і мяла Ульяніца лянок,
Ох, і мяла Іванаўна лянок.

Прыпеў.

Ох, і прала Ульяніца лянок,
Ох, і прала Іванаўна лянок.

Прыпеў.

Ох, і ткала Ульяніца лянок,
Ох, і ткала Іванаўна лянок.

Прыпеў.

А саткаўшы, ды сарочак нашыла,
А саткаўшы, ды сарочак нашыла.

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Параўнайце гучанне запеву і прыпеву. Ці аднолькавыя яны?
2. Развучыце песню. Звярніце ўвагу на дакладнае інтанаванне мелодыі.
3. Паспрабуйце прыдумаць рухі, адпаведныя розным відам працы (сеянню і праполцы льну, тканню, шыццю).
4. Выканайце песню, ужываючы рухі, адпаведныя відам працы, пра якія спяваецца ў песні.

Песня суправаджала беларуса і ў час адпачынку. Шматлікія народныя песні прасякнуты пачуццём гумару, маюць вясёлы настрой.





## Ішоў казёл

**Беларуская народная песня**

Апрацоўка У. Прохарава












*p*

У Мі - кі - ты ба - ра - да у - ся мё - дам

за - лі - та, у - ся мё - дам за - лі - та.

Ты, Ма - рыль - ка, не ту - жы, ўсю ба - ро - дань -

ку злі - жы, ўсю ба - ро - дань - ку злі - жы.

*f*

Ка - зёл і - шоў па мя - жы.

**Пытанні і заданні:**

1. Параўнайце мелодыю першага, другога і трэцяга куплетаў. Ці аднолькавыя яны? Што ў іх агульнага, што рознага?

2. Знайдзіце ў песні распевы. Якую ролю яны выконваюць?

**Змяненне мелодыі пры яе паўтарэнні называецца вар'іраваннем.**

Для таго, каб выканаць распеў, неабходна навучыцца правільна размяркоўваць дыханне. Трэба, каб яно было роўнае, без штуршкоў. Усе гукі распеву павінны быць аднолькавыя па сіле.



**Распеўнасць, ладавая пераменнасць і варыяцыйнасць — характэрныя рысы беларускай народнай песні.**

## МУЗЫЧНЫЯ ФАРБЫ ВОСЕНІ

Адзвінелі птушак песні
З пераборам струнных сосен,
І бярозы на ўзлессі
Зноў сустрэлі ціха восень...

*М. Васілёк*



Восень завяршае беларускі традыцыйны каляндар. Гэта пара збору ўраджаю. Нашы продкі восенню рвалі каноплі, лён, капалі бульбу.

Беларускі народ заўсёды ствараў песні, прысвечаныя гэтай дзіўнай пары. Яны спяваліся з канца жніўня да канца лістапада. У іх адчуваецца затоенасць, сум па леце, сузіранне. Спяваліся восеньскія песні ў асноўным у полі.

**Восеньскія песні падзяляюцца на яравыя, ільнавыя, піліпаўскія і іншыя. Іх трэба выконваць павольна, плаўна. Гэта дапамагае перадаць іх настрой.**



## Ярная

**Беларуская народная песня**




**Пытанні і заданні:**

1. Выканайце пульс песні. Параўнайце колькасць долей у першым і другім, трэцім і чацвёртым тактах. Ці аднолькавая яна?

2. Праспявайце песню па нотах.

3. Выканайце народную песню, уважліва назіраючы за зменай пульсу.

**Чаргаванне рознага пульсу (метра) уласціва народнай песні. Такі прыём называецца пераменным памерам. Пераменны памер надае беларускай народнай песні гнуткасць, шырыню дыхання.**



## Дубровушка ды зялёная
### Беларуская народная песня

Рухава

Ду - бро - вуш - ка ды зя - лё - на - я

ўсю во - сень шу - ме - ла. Ах, лё - лю - шкі

ды па лё - люш - кі, ўсю во - сень шу - ме - ла.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце беларускую народную песню «Дубровушка ды зялёная». Які настрой вы адчулі ў музыцы?

2. Якія выразныя музычныя фарбы выкарыстаны ў гэтай песні?

3. Якія рысы, уласцівыя беларускай народнай песні, сустракаюцца ў гэтым творы?

4. Развучыце песню. Паспрабуйце праспяваць яе, захоўваючы традыцыі выканання.

Прыгожыя карціны восені часта натхняюць кампазітараў і паэтаў на стварэнне музычных твораў.

## Адлятаюць птушкі
## (з сюіты «Поры года»)

В. Карэтнікаў

**Сюіта — музычны твор, які складаецца з некалькіх рознахарактарных п'ес, аб'яднаных адной думкай.**

У сваёй сюіце для сімфанічнага аркестра кампазітар Валерый Карэтнікаў адлюстраваў кожны з дванаццаці месяцаў. «Адлятаюць птушкі» — адна з частак сюіты.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце частку з сюіты. Якія пачуцці ў вас выклікала музыка?

2. Якія выразныя музычныя фарбы выкарыстаў кампазітар?

3. Тэмбры якіх інструментаў сімфанічнага аркестра вы пазналі?

4. Паспрабуйце выявіць свае пачуцці — стварыце пластычны вобраз, малюнак, складзіце верш, прыдумайце кароткае апавяданне.



**Пытанні і заданні:**

1. Паназірайце за дрэвамі восенню. Восень, быццам мастак, пафарбавала іх у розныя колеры — жоўты, чырвоны, барвовы.

2. Назбірайце восеньскіх лістоў і зрабіце з іх рознакаляровы арнамент або спляціце прыгожую гірлянду.

3. Прасачыце, як чаргуюцца ў арнаменце колеры. Суаднясіце кожны колер з пэўным гукам. Напрыклад, жоўты колер — гук «до», чырвоны — «мі», барвовы — «соль». Праспявайце мелодыю, якая атрымалася.

4. Суаднясіце колеры з іншымі гукамі. Выканайце новую мелодыю. Ці адрозніваецца яна ад першай?

5. Выберыце з мелодый найбольш цікавую. Паспрабуйце праспяваць яе хорам. Для гэтага неабходна падзяліцца на групы ў адпаведнасці з колькасцю колераў (гукаў). Кожная група выконвае свой гук па чарзе. Парадак уступу вызначыць настаўнік. Потым праспявайце ўсе гукі адначасова і ўслухайцеся ў гучанне «гукавой плямы».

6. Якія карціны восені мы можам намаляваць ціхім гучаннем? А якія — яскравым, больш яркім?

# У ДОБРАЙ КАЗАЧНАЙ КРАІНЕ

За раку,
Не за паўсвету,
Ты хадзіў
У казку гэту?
Там пад неба
Дах лісцвяны,
Рэха слухаюць паляны.
Там жывіцы льецца пах –
Нават горкасць на губах.
Там птушыная радня
Звад не ведае ні дня...

*М. Чарняўскі*

У беларускага народа ёсць цікавыя песні. У іх дзейнічаюць незвычайныя героі — камары, мухі, птушкі, звяры. Сюжэты такіх песень разгортваюцца, як у казцы.



## Як паставіў верабейка на сметнічку хату
### Беларуская народная песня

Як па-ста-віў ве-ра-бей-ка на смет-ніч-ку
ха - ту, ды саз - ваў на на - ва - сел - ле
гос - цей - каў ба - га - та. Пі - ва, ква - су




Ў залочанай карэце
Дзяцел пад’язджае,
А за дзятлам на валах
Жоўна паспяшае.
А зязюля з шуляком,
Перапёліца з круком
Лугам, даліною
Шпараць пехатою.

Заклікае верабейка
Ўсіх госцейкаў есці,
Запрашае белу лебедзь
На покуце сесці.
А з лебеддзю жураўля,
І савішчу, і луня,
І стару чачотку,
Сваю родну цётку.

**Пытанні і заданні:**

1. Вызначыце характар кожнага з герояў песні. Адбярыце музычныя фарбы для выканання — тэмбр і сілу гуку. Яны павінны адпавядаць характарам герояў.

2. Выканайце песню па ролях, чаргуючы спевы салістаў і хору.

3. Паспрабуйце прыдумаць рытмічны акампанемент. Адбярыце музычныя інструменты для яго выканання.

У музыцы мы часта можам сустрэць знаёмых з дзяцінства казачных герояў. Згадайце знаёмыя вам балеты «Папялушка» С. Пракоф'ева і «Спячая прыгажуня» П. Чайкоўскага, оперы «Залаты пеўнік» М. Рымскага-Корсакава і іншыя.

Казачныя героі сустракаюцца і ў творах беларускіх кампазітараў.

## Танец феі

С. Картэс



**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Пры дапамозе якіх выразных музычных фарбаў кампазітар намаляваў вобраз феі?
2. Вызначыце будову твора. Адлюструйце яе з дапамогай фігур з каляровай паперы.
3. Паспрабуйце намаляваць фею. Прыдумайце казачны сюжэт з яе ўдзелам.
4. Уявіце, у які момант казачнага сюжэта можа гучаць твор С. Картэса.

У музычным спектаклі «Прыгоды ў замку Алфавіт» В. Войціка казачныя героі — літары беларускага алфавіта. Літары — сапраўдныя сябры дзяцей. Яны выратоўваюць іх ад злога Змея-Хапуна і каралевы Ляноты. У канцы спектакля героі разам спяваюць «Песеньку сяброў».



## Песенька сяброў

Словы С. Клімковіч

Музыка В. Войціка






Толь - кі так і быць па - він - на,
А і - накш і быць не мо - жа

гэ - та кож - ны ра - зу - ме - е.
ў доб-рай ка - зач - най кра - і - не.

Прыпеў:

Ра - дас - ны свет дзя - цін - ства,

доб - ры і спра - вяд - лі - вы,

ўсе ня - го - ды і пры - го - ды

тут кан - ча - юц - ца шча - слі - ва.

**Пытанні і заданні:**

1. Развучыце твор, карыстаючыся нотным запісам.

2. Параўнайце характар музыкі запеву і прыпеву. Які з іх мае гутарковы характар, а які песенны?

3. Вылучыце ў музыцы запеву моцную і слабую долі. Выканайце рытмічны малюнак запеву. На асно-

ве пульсу (метра) і рытмічнага малюнка прыдумайце рытмічны акампанемент.

4. Упрыгожце выкананне ігрой на трашчотках, свістульках, гармоніках.

5. Прыдумайце танцавальныя рухі. Выканайце іх паміж музычнымі фразамі.

## РАДАСНЫ СВЕТ ГУЛЬНІ

Цяжка ўявіць сабе дзіця, якое не ўмее гуляць.

Гульня мае свае правілы. Часткай гульні з’яўляецца лічылка. Лічылка дазваляе вызначыць чарговасць удзелу ў гульні. Яна звычайна скандзіруецца ўсімі ўдзельнікамі разам. Адначасова рукой выконваецца рух, які ўказвае на аднаго з гульцоў.

У музычным спектаклі «Прыгоды ў замку Алфавіт» дзея пачынаецца з вясёлай гульні. Галоўныя героі — хлопчык Андрэйка, дзяўчынкі Алеська і Марынка — гуляюць разам з літарамі.



## Лічылка

Словы С. Клімковіч — Музыка В. Войціка

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце «Лічылку». Які настрой у гэтай музыкі? Які характар яе музычнай мовы — песенны, маршавы або танцавальны?

2. Вызначыце будову твора. Адлюструйце яе з дапамогай «домікаў» з каляровай паперы. Колькі частак у вас атрымалася?

3. Уважліва ўслухайцеся ў тэкст. Якія з літар вы б пасялілі ў кожным з «домікаў»?

4. Вы ўжо знаёміліся з інструментамі сімфанічнага аркестра. Успомніце іх назвы. На якіх інструментах іграюць літары ў праслуханым творы?

5. Выберыце словы, якія адпавядаюць настрою гульні: бестурботнасць, бесклапотнасць, сум, радасць, самота.

Гульня вучыць чалавека ўзаемадзейнічаць адно з адным, разумець адно аднаго, дапамагаць. У беларускага народа ёсць шмат дзіцячых гульняў: «Воўк і авечкі», «У мядзведзя ва бару», «Гусі-лебедзі» і іншыя. Часта гульні суправаджаюцца песнямі, карагодамі, ігрой на музычных інструментах.



## Сіўка-варонка
## Беларуская народная песня

Сіў - ка-ва-рон - ка! Да-лі-гой - да!
Ку - ды па-ля - це-ла? Да-лі-гой - да!

К ка - ва-лю на двор. Да-лі-гой - да!

К ка - ва-лю на двор. Да-лі-гой - да!

— Нашто табе каваль?
— Косы каваці.
— Нашто табе косы?
— Траўку касіці.
— Нашто тая траўка?
— Каровак карміці.
— А нашто кароўкі?
— Млечка даіці.

— А нашто млечка?
— Сырцы ляпіці.
— А нашто сырцы?
— Пастухоў карміці.
— А дзе ж пастухі?
— На вайну пайшлі.
— Дзе тая вайна?
— Пасярод гумна.

Кожны радок паўтараецца два разы. Слова «далі-гой-да!» паўтараецца пасля кожнага радка.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Вызначыце па нотным запісе пытальныя інтанацыі і інтанацыі адказу. Параўнайце іх з адпаведнымі моўнымі інтанацыямі. Ці аднолькавыя яны?

2. Замалюйце на дошцы рух мелодыі ў выглядзе графічных ліній. Праспявайце песню па нотах. Дадайце да спеваў пластычныя рухі рук у адпаведнасці з рухам мелодыі.

3. Выразна выканайце песню, чаргуючыся з настаўнікам або іншымі вучнямі.

4. Упрыгожце выкананне інструментальным суправаджэннем.

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ

Беларускую музыку цяжка ўявіць без беларускіх народных інструментаў. На працягу стагоддзяў іх стваралі народныя майстры. Ігра на народных інструментах цесна звязана з жыццём народа.

Адметнай асаблівасцю беларускай народнай музыкі з'яўляюцца гукапераймальныя найгрышы. Музыканты імітуюць пошум ветру, спевы птушак, галасы розных жывёл і іншае.

Дудка — любімы музычны інструмент пастухоў. Звычайна яны рабілі дудкі з дрэва. Празрыстае і мяккае гучанне дудкі зачароўвае слухача. Яе «голас»

спадарожнічае спевам. Выканаўцаў на дудцы называлі дудары або дударыкі.

Цымбалы — адзін з беларускіх шматструнных інструментаў. У час ігры па струнах б'юць драўлянымі палачкамі. Гучанне цымбалаў паэтычна параўноўваюць з гулам разбуджанага дрымучага бору.



Дудка



Цымбалы

Гармонік выкарыстоўваецца як сольны і ансамблевы інструмент. У рэпертуары гарманістаў пераважаюць танцавальныя найгрышы і прыпеўкі.

Бубен — ударны інструмент. Ён не мае вызначанай вышыні гуку. Вы ўжо ведаеце, як гучыць бубен. Іграць на ім можна па-рознаму: гучна, ярка, затоена, ціха, таямніча, весела.



Гармонік



Бубен

Яшчэ адзін цудоўны інструмент называецца скрыпка або скрыпіца. Спрадвеку скрыпка лічыцца ў народзе царыцай музыкі. Яна цешыць душу, прыносіць радасць усім.



Скрыпка

**Пытанні і заданні:**

1. Як вы памятаеце, тэмбрам называецца афарбоўка гуку. Адлюструйце тэмбр беларускіх народных інструментаў з дапамогай колеру.

2. Падбярыце словы, якія характарызуюць тэмбр цымбалаў (сярэбраны, звонкі, крыштальны, мілагучны, празрысты, яркі, цьмяны).

Ансамблі народнай музыкі звычайна складаліся з розных інструментаў. Іх заўсёды было не менш за тры. Напрыклад, цымбалы, дудка і бубен або скрыпка, цымбалы і гармонік.

## Кадрыля

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце кадрылю ў выкананні ансамбля народных інструментаў. Колькі розных тэмбраў вы пачулі?

2. Прасачыце за развіццём музыкі. Як на яго ўплывае змена тэмбраў інструментаў?

3. Упрыгожце кадрылю гучаннем інструментаў, якія ёсць у вашым класе.

Пра беларускія народныя інструменты часта спяваецца ў песнях.



## Зайграй жа мне, дударочку
### Беларуская народная песня

Зай - грай жа мне, ду - да - роч - ку,
А за гэ - та ця - бе, мі - лы,
Прыпеў: Тум - тум,
а я па - тан - цу - ю, тум,
мё - дам па - час - ту - ю,
тум - та, тум - та, а я па - тан - цу - ю.
тум, тум, тум.

Зайграй жа мне, дударочку,
Як сам разумееш,
Зайграй, сівы галубочку,
Тое, што умееш.

Прыпеў.

Як іграюць без дуды,
Ходзяць ножкі не туды,
А як дуду пачуюць,
Самі ножкі танцуюць.

Прыпеў.



**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Вызначыце характар музыкі.

2. Прасачыце за развіццём мелодыі, абапіраючыся на нотны запіс. Звярніце ўвагу на малюнак мелодыі — гукі быццам падскокваюць або танцуюць.

3. Вызначыце, гукі якіх інструментаў імітуюцца ў прыпеве.

4. Прыдумайце інструментальнае суправаджэнне прыпеву, ужываючы бубен, блок-флейту, барабан.



**Падгалосак — гэта голас, які суправаджае асноўную мелодыю. Падгалоскі часта сустракаюцца ў беларускіх песнях.**

Паспрабуйце самастойна прыдумаць падгалоскі да мелодыі прыпеву песні «Зайграй жа мне, дударочку». Для гэтага працягніце гукі, з якіх пачынаюцца такты прыпеву. Потым прадоўжыце сыходны рух уніз у трэцім і чацвёртым тактах.



## Падгалоскі да песні





Праспявайце падгалоскі. Атрымалася прыгожае двухгалоссе. Прыдумайце да падгалоскаў тэкст у адпаведнасці са зместам песні.

## НОВАЕ ЖЫЦЦЁ НАРОДНЫХ МУЗЫЧНЫХ ІНСТРУМЕНТАЎ

Народныя інструменты мяняліся з цягам часу. Сёння яны вылучаюцца яркімі тэмбрамі, сучаснымі выканальніцкімі магчымасцямі.





### Цымбалы

Словы І. Цітаўца　　　　Музыка В. Воінскай

Лёгка

1. А - бу - хом дзед ці - ха грук - нуў,
ел - ка звон - ка за - гу - ла

і жы - вым пя - ву - чым гу - кам

на - ва - кол - ле за - лі - ла.

Дзед той, шчы - ры і ста - ран - ны,

сэр - ца спра - ве ад - да - ваў.

Ён, натх - нё - ны, а - пан - та - ны,

сам цым - ба - лы май - стра - ваў.

Прыпеў:

Цым - ба - цым - бі - кі - цым - ба - лы.

За у - да - рам зноў у - да - ры.




Ён імчыцца пад аблокі,
Даляціць да самых зор,
Шматгалосы і шырокі,
У цымбалы грае бор.

Прыпеў.

Там, дзе скрыпка і цымбалы,
Там гармонік і кларнет.
Рассяваюць струны чары,
Ружавее белы свет.

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню «Цымбалы». Ці сучасная гэта музыка? Якія асаблівасці музычнай мовы надаюць песні сучасны характар?

2. Паспрабуйце знайсці падобныя інтанацыі ў беларускай народнай песні «Зайграй жа мне, дударочку» і песні «Цымбалы».

3. Выканайце (далонямі, пальцамі, алоўкам) рытм песні. Ці аднолькавы ён ва ўсіх фразах?

4. Развучыце песню. Падумайце, ігрой на якім інструменце можна падкрэсліць рытм у час выканання.

Пэўныя змены закранулі не ўсе беларускія музычныя інструменты. Некаторыя з іх шырока ўжываліся ў старажытныя часы. Аднак яны рэдка гучаць сёння. Гэта дуда (валынка), калёсная ліра і іншыя. Такія інструменты сёння захоўваюцца ў музеях.

Дуда — старажытны інструмент. Ён уяўляе сабой мяшок са скуры, у які ўстаўлены трубкі. Праз адну з трубак у мяшок паступае паветра. На другой ёсць пішчык і дзіркі для пальцаў. Астатнія трубкі іграюць толькі адзін доўгі гук. Ён стварае фон для выканання мелодыі.

Калёсная ліра — струнны інструмент. Ён падобны на дзве драўляныя скрынкі. У адной скрынцы размешчаны тры струны. На сярэдняй іграюць мелодыю, націскаючы на розныя клавішы. Астатнія струны цягнуць доўгія гукі.



Дуда (валынка)



Калёсная ліра

Старажытныя інструменты вылучаюцца тэмбрамі, якія не ўласцівы сучаснай музыцы. Музыканты выкарыстоўваюць іх для стварэння асаблівага каларыту.

Сёння ў нашай краіне існуюць выканальніцкія калектывы, якія іграюць на старажытных інструментах.

## Вайтоўна
### Старажытная беларуская песня

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Гучанне якога інструмента вы пачулі ва ўступе?
2. Які каларыт надае музыцы ўжыванне старажытных інструментаў?

# ТАНЦАВАЛЬНАЯ МУЗЫКА НАШАГА НАРОДА

У беларускай музыцы шырока распаўсюджаны песні-танцы. Яны выконваюцца з інструментальным суправаджэннем. Песні-танцы вызначаюцца вясёлым настроем, хуткім імклівым рухам. Найбольш вядомыя беларускія песні-танцы — «Янка-полька», «Мікіта», «Лявоніха», «Бульба-полька».





## Янка-полька





## Мікіта






## Юрачка




**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце па нотах мелодыі беларускіх песень-танцаў.

2. Замалюйце мелодыі танцаў у выглядзе графічных ліній. Ці падобнымі атрымаліся яны?

3. Вы ўжо ведаеце, што такое сюіта. Стварыце невялікую сюіту з беларускіх песень-танцаў. Услухайцеся ў музыку. Які з танцаў больш падыходзіць для пачатку сюіты, а які для яе завяршэння? Чаму?

4. Адбярыце музычныя інструменты і прыдумайце акампанемент да сюіты.

Адзін з найбольш папулярных у Беларусі танцаў — крыжачок. Яго назва пайшла ад беларускага слова «крыж». Малюнак танца сапраўды нагадвае крыжыкі.

Крыж часта ўжываецца ў беларускім арнаменце.



**Крыжачок**
**Беларускі народны танец**

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце музыку. Вызначыце яе пульс (метр). Колькі долей у вас атрымалася?

2. Выканайце пульс (метр) танца і яго рытмічны малюнак.

3. Агучце моцную і слабыя долі, рытмічны малюнак з дапамогай розных інструментаў. Прыдумайце рытмічны акампанемент да танца.

## Бульба-полька
## Беларуская народная песня-танец

Гарні, гарні бульбу з печы
У торбачку ды на плечы,
У торбачку ды нясі —
Скажаш дзякуй, як з'ясі.

Прыпеў:

Трам-там-там, та-ра-та-та-та-та-там,
Скажаш дзякуй, як з'ясі.
Трам-там-там, та-ра-та-та-та-та-там,
Трам-там, ці-рам, та-ра-ра-рам.

Бульбу пякуць, бульбу вараць,
Бульбу ядуць, бульбу хваляць,
З бульбы клёцкі, з бульбы каша —
Вось такая доля наша.

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Вызначыце характар музыкі.
2. Праспявайце мелодыю. Плаўна ці адрывіста яна рухаецца? Чаму?
3. Выканайце пульс музыкі. Вызначыце гукі, якія акцэнтуюцца ў запеве. Колькі гукаў у вас атрымалася?
4. Дадайце да спеваў танцавальныя рухі. Памятайце, што ў дзяўчынак і хлопчыкаў яны павінны быць розныя.

5. У гэтай песні гаворка ідзе пра бульбу — адну з сельскагаспадарчых культур у Беларусі. Ці падобны гэты твор на працоўную песню?

Некаторыя танцы прыйшлі ў Беларусь з іншых краін свету. Сярод іх — куранта, павана і іншыя. Апынуўшыся на беларускай зямлі, яны набылі беларускія рысы. Іх мелодыі вар'іраваліся, у іх пранікалі беларускія інтанацыі.

Узоры старажытнай танцавальнай музыкі захаваліся ў «Полацкім сшытку». «Полацкі сшытак» — яскравы ўзор беларускай музыкі шаснаццатага—семнаццатага стагоддзяў. Ён уключае больш за 60 вакальных і інструментальных твораў.

## Куранта
## (з «Полацкага сшытка»)



Куранта — рухомы рытмічны танец. У перакладзе з французскай мовы слова «куранта» азначае «цякучая». Куранта была вельмі распаўсюджана ў шаснаццатым стагоддзі. Яна нагадвала танцавальную гульню з падскокамі.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Якія музычныя інструменты яго выконваюць?

2. Уявіце сабе рухі, якія выконваліся пад музыку гэтага танца. Ці падобны ён на народны? А на сучасны?

## МУЗЫКА ПАЛАЦАЎ І СЯДЗІБ

На тэрыторыі нашай краіны знаходзіцца шмат архітэктурных помнікаў. Некаторыя з іх маюць сусветнае значэнне.



Палац у Нясвіжы

Веліч замкаў і палацаў часта натхняе сучасных беларускіх кампазітараў. Яны пішуць творы, якія спалучаюць у сабе рысы старажытнай і сучаснай музыкі.

## Неўрачысты выхад праз негалоўную браму (з цыкла «Музыка для горада Нясвіжа»)

Дз. Лыбін

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Якія выразныя музычныя фарбы выкарыстаў кампазітар?

2. Паспрабуйце ўпрыгожыць твор гучаннем музычных інструментаў.

Музыка гучыць у сценах замкаў і сёння. Там адбываюцца музычныя святы, канцэрты і фестывалі.



Мірскі замак

## Мірскі замак

Словы І. Цітаўца Музыка В. Кісценя

Над рэчкай Міранкай спявалі заранкі,
Над рэчкай Міранкай шумелі бары.
Ад Бога і неба, дзе чыстая глеба,
Заклаліся Мірскага замка муры.

Ваенныя хмары і злыя пажары
Знішчалі дашчэнту красу тых муроў.
Народ працавіты, народ дзелавіты
Ствараў тое дзіва нанова ізноў.

Прыпеў:
На роднай старонцы шырока
Звіні, наша песня, звіні!
Пад стрэхамі продкаў далёкіх
Радзімы маёй карані.

Зямля Беларусі! Удзячна дзіўлюся
На замак твой Мірскі — багацце тваё.
Тут прашчуры нашы у квецені нацый
Займалі пачэснае месца сваё.

Вакол збудаванняў стаяць рыштаванні,
І свежаю фарбай чаруецца зрок.
Хто памяць шануе — той меней гаруе,
Калі ён наперад нацэльвае крок.

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Якім настроем яна прасякнута?

2. Вылучыце галоўную інтанацыю запеву. Замалюйце яе ў выглядзе графічнай лініі.

3.  Ці адрозніваецца музыка ў прыпеве і запеве?

4. Уважліва прачытайце тэкст. Як лепш размеркаваць дыханне пры выкананні? Ці будзе дыханне размяркоўвацца аднолькава ў розных куплетах?

Калі фраза атрымліваецца занадта доўгай, паспрабуйце выкарыстаць ланцуговае дыханне. Для гэтага падзяліцеся на дзве групы. Вызначыце ў тэксце месцы змены дыхання для кожнай групы. Дыханне лепш не браць паміж фразамі, а мяняць на працягу доўгай ноты. Уступ пасля дыхання павінен быць мяккі, непрыкметны.

## ЗІМОВЫЯ КАРУНКІ



Надышла зіма. Ціха падае першы снег і засцілае зямлю белай коўдрай. Трашчыць мароз. Адгукаецца ў лесе рэха. Чуваць вясёлыя галасы дзяцей, якія коўзаюцца па першым лёдзе.



# Пришла зима с морозами

Словы В. Высоцкай

Музыка В. Войціка

Оживлённо

*mf*

Ля - ля, ля - ля, ля - ля, ля - ля... Ля - ля,

ля-ля, ля-ля, ля... Ля-ля, ля-ля, ля-ля, ля-ля... Ля-ля,

*mp*

ля-ля, ля-ля, ля... 1. При - шла зи-ма с мо - ро-за-ми, с мо-

ро-за-ми, с ме - те-ля-ми, су - гро-бы под бе - рё-за-ми, бе-

лым-бе-ло под е - ля-ми. На вя-зах за о - ко-ли-цей у-

зор из бе-лых бус. А воз-дух жжёт и ко-лет-ся, и




Пришла зима бодрящая,
Звенящая, хрустящая,
Со школьными задачами
И печками горячими.
Мы любим дни морозные,
Катка упругий лёд,
Ночное небо звёздное
И шумный Новый год!

Пришла зима с хлопушками,
С конфетами, игрушками
И праздничными колкими
Наряженными ёлками.
Зима весёлой маскою
Заходит к нам в дома.
Волшебной, доброй сказкою
Нам кажется зима!

**Пытанні і заданні:**

1. Уважліва праслухайце песню. Які настрой яна перадае?

2. Выразна прачытайце тэкст. Вылучыце словы, якія патрабуюць гукапераймання пры выкананні. Падкрэсліце характар песні выразным вымаўленнем асобных гукаў у словах «морозами», «сугробы», «бодрящая», «звенящая», «хрустящая», «упругий», «лёд», «хлопушками», «колкими».

3. Развучыце песню. Складзіце выканальніцкі план.

Карціны зімы заўсёды знаходзілі ўвасабленне ў беларускім народным мастацтве. Адзін з найбольш цікавых прыкладаў — народны танец «Мяцеліца».

## Мяцеліца
### Беларускі народны танец

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор. Якім настроем ён прасякнуты?

2. Якія малюнкі зімовай прыроды ён адлюстроўвае? Пры дапамозе якіх музычных фарбаў?

3. Упрыгожце слуханне гучаннем гукавысотных і шумавых інструментаў, танцавальнымі рухамі.

У зімы ёсць розныя фарбы. Паспрабуйце самастойна стварыць зімовую музычную карціну.

**Пытанні і заданні:**

1. Прыдумайце і намалюйце «гукавымі» лініямі завыванне завірухі.

2. Падзяліцеся на групы і выканайце шматгалосую «гукавую» партытуру.

## МУЗЫКА Ў ЦАРКВЕ І КАСЦЁЛЕ

Музыка з'яўляецца часткай набажэнстваў. Яна заўсёды гучыць у храмах.

Адметная рыса праваслаўнай царкоўнай музыкі — харавыя спевы без суправаджэння. Хор гучыць у царкве ў час набажэнстваў і царкоўных свят.



На свята Хрыстова Нараджэння людзі спяваюць духоўныя канты.

**Духоўны кант — песня, якая апавядае пра падзеі з біблейскай гісторыі.**



## Нова радость стала
## Духоўны кант

Апрацоўка Л. Шлег

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор. Вызначыце настрой музыкі. Ці адпавядае гэты настрой назве твора?
2. Якую карціну малюе музыка?

У каталіцкіх храмах часта гучаць творы, прысвечаныя Божай Маці. Ім уласцівы пяшчотныя, празрыстыя музычныя фарбы.

## Авэ Марыя

Л. Шлег

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Якое пачуццё выклікае ў вас музыка?
2. Якія музычныя фарбы выкарыстаны кампазітарам?
3. Пакажыце рухамі рук сыходзячыя інтанацыі ў заключнай частцы твора.

Твор Франца Грубэра «Ціхая ноч» таксама спяваюць у ноч на Хрыстова Нараджэнне. Яго словы перакладзены на розныя мовы.



# Ночь тиха

Словы Ё. Мора

Музыка Ф. Грубэра

**Медленно**

Ночь ти - ха, ночь свя - та, свет с не-
бес льёт звез - да. Бо - жий Сын пе - ле -
на - ми по - вит, в Ви - фле - ем - ском вер - те - пе ле -
жит. Спи, Мла - де - нец свя - той,
спи, Мла - де - нец свя - той.

Ночь тиха, ночь свята.
В небе мир, красота.
Бога славит ангельский хор,
Песней оглашая простор
Над уснувшей землёй.

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце песню. Знайдзіце ў тэксце распевы.

2. Прасачыце за размеркаваннем дыхання. У якім куплеце вы выкарыстаеце дыханне па фразах, а ў якім ланцуговае? Чаму?

3. Адбярыце музычныя фарбы для выканання. Абгрунтуйце свой выбар.

4. Дадайце да спеваў інструментальнае суправаджэнне. Прыдумайце партыі для металафона, званочкаў і трохвугольніка. Запішыце інструментальную партытуру на дошцы. Сачыце, каб суправаджэнне адпавядала характару музыкі.

## КАЛЯДЫ



Каляды — традыцыйнае свята беларускага народа. На Каляды людзі спявалі песні — калядкі і шчадроўкі. У іх выказваліся пажаданні гаспадарам. Выканаўцаў гэтых песень называлі калядоўшчыкі. Яны хадзілі ад двара да двара. За выказаныя пажаданні гаспадары давалі калядоўшчыкам розныя прысмакі.

Калядныя спевы суправаджаліся гульнямі. Звычайна калядоўшчыкі пераапраналіся ў казачных персанажаў — ваўка, казу, салдата, чорта, цыганку. На працягу ўсяго свята гучала музыка.



## Ішла Каляда
**Беларуская народная песня**

Іш - ла Ка - ля - да ка - ля - ду - ю - чы.

Прыпеў:

Гэй, Ка - ля - да, Ка - ля - дзі - ца!

Каля двору йшла ды бядуючы,
За ёй хлопчыкі ўсё слядуючы.
Прыйшла Каляда к Ляксею на двор:
— Пане Ляксею, просім не трымаць,
Кароткі світкі — сцюдзёна стаяць.
Ці ты спіш-ляжыш, ці нас не чуеш?

Пане Ляксею, дары Каляду!
Калі не дасі бочкі пшаніцы,
Бочкі пшаніцы, другой — ярыцы,
Дык не аддасі младу Марыльку!

(Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.)

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце песню па нотным запісе. Звярніце ўвагу на зерне-інтанацыю, якая ляжыць у яе аснове.
2. Суаднясіце тэмп выканання песні з чалавечым крокам. Што ў вас атрымалася? Замацуйце тэмп, імітуючы крокі ў час выканання.
3. Вылучыце пачатковыя гукі кожнага такта. Працягніце іх і пабудуйце другі голас. Дадайце да яго словы.
4. Выканайце песню, чаргуючы спевы саліста і хору.

Новы год — час цудаў, спаўнення жаданняў. На Новы год людзі ўпрыгожваюць елку, робяць падарункі сябрам і блізкім.

Цяжка ўявіць сабе навагодняе свята без музыкі. Паспрабуем скласці навагоднюю песеньку разам з кампазітарам. Асобныя радкі запеву і прыпеў напісала кампазітар Аліна Безенсон. Усе астатнія радкі вы паспрабуеце стварыць самастойна.



## Што прыносіць Новы год?

Словы Л. Дайнекі — Музыка А. Безенсон

Што пры - но - сіць Но - вы год?

Што пры - но - сіць Но - вы год?

Што пры - но - сіць, што пры - но - сіць,

што пры - но - сіць Но - вы год?

Новы ў полі лыжны след.
Новы ў новы цырк білет.
Новыя канькі, свісткі.
Новыя канікулы.

Новы дождж. І новы гром.
Пераезд у новы дом.
Новы смачны апельсін.
Не злічыць усіх навін!




**Пытанні і заданні:**

1. Развучыце мелодыю запеву. Які характар інтанацыі ў першым радку?

2. Падкрэсліце пытальную інтанацыю павышэннем гуку ў канцы апошняй фразы.

3. Прыпеў — гэта пажаданні. Згадайце праслуханыя фрагменты калядных пажадальных песень. Вызначыце музычныя фарбы для выканання прыпеву. Якія тэмп і сіла гуку адпавядаюць характару прыпеву?

4. Музыку радкоў, якія выдзелены колерам, стварыце самастойна. Іх можна рытмічна прагаварыць. Такое гутарковае рытмізаванае выкананне пад музыку называецца рэп. Адстукайце рытм далонямі або дадайце да выканання гучанне сінтэзатара.

5. Развучыце гутарковыя фразы. Паспрабуйце выканаць іх хорам.

6. Вылучыце салістаў у адпаведнасці з колькасцю гутарковых фраз. У выкананні салістаў кожная фраза павінна набыць тэмбравую афарбоўку. Як гэта ўплывае на характар музыкі?

7. Можна прыдумаць свае варыянты тэксту. Як вы лічыце, што яшчэ можа прынесці Новы год?

Пры імправізацыі або складанні вершаваных радкоў прытрымлівайцеся рытму песні.

## АБАГУЛЬНЕННЕ ТЭМЫ ПЕРШАГА ПАЎГОДДЗЯ

Вы ўжо ведаеце, што музычная культура Беларусі шматгранная і разнастайная.

Сапраўднай скарбніцай з'яўляецца беларуская народная музыка. Яна адлюстроўвае гісторыю нашага народа, перадае пачуцці людзей, вучыць шчырасці і дабрыні.

Згадайце асноўныя рысы беларускай народнай музыкі. Прывядзіце прыклады твораў, для якіх характэрны:

- варыяцыйнасць;
- распеўнасць;
- падгалосачнасць;
- пераменны лад і памер.

Беларускія народныя абрады заўсёды суправаджаліся музыкай і спевамі. З музыкай якога абраду вы сустракаліся ў гэтым паўгоддзі?

Народныя песні часцей за ўсё выконваюцца без суправаджэння. Растлумачце, якія выканальніцкія якасці неабходна набыць для такога выканання. Праспявайце песню, якая вам найбольш спадабалася.

Яскравай старонкай музычнай культуры Беларусі з'яўляецца музыка цэркваў і касцёлаў. Якія характэрныя асаблівасці гэтай музыкі вы ведаеце?

Жанравай разнастайнасцю вылучаецца музыка сучасных беларускіх аўтараў. Збярыце з іх твораў калекцыю для слухання і выканання. Абгрунтуйце свой выбар.

Беларуская музыка гучыць у выкананні вядомых беларускіх выканальніцкіх калектываў. З якімі з іх вы пазнаёміліся на ўроках?

Праз музыку мы маем магчымасць расказаць пра нашу Беларусь усяму свету.

# ТРЭЦЯЯ ЧВЭРЦЬ
## Музычныя падарожжы

### ВАНДРУЕМ ПА КРАІНЕ

Беларусь — шматнацыянальная краіна. У ёй дружна жывуць прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. Рэспубліка Беларусь — іх агульная Радзіма. Усе народы старанна захоўваюць сваю культуру (мову, звычаі, строі, народнае мастацтва).



### Рамонка

Словы А. Вольскага — Музыка І. Лучанка

**Рухава, весела**

Ве - ся - лей смя - ец - ца сон - ца, ка - лі
по - бач доб - ры друг. Як пя - лёст - кі на ра -
мон - цы, мы сы - шлі - ся ў цес - ны круг. З поў - дня,



з за - ха-ду, з ус - хо - ду ці з кра - ёў паў - ноч - ных



ты, на - ша друж - ба — на - заў - сё - ды, ўсе мы —




сёст - ры і бра - ты. За - спя - ва - ем пес - ню



звон - ка, туп - нем так, а по - тым так. Ка - ля -



ро - ва - я ра - мон - ка — на - шай слаў - най друж - бы



знак, на - шай слаў - най друж - бы




Моцна возьмемся за рукі —
Не парваць такі ланцуг,
Бо па дружбе, не з прынукі
Мы сышліся ў цесны круг.
На рамонку люба глянуць,
Круглы год цвіце яна.
Дружбе нашай век не звянуць.
Для яе заўжды вясна.

Прыпеў.

Весялей смяецца сонца,
Калі побач добры друг.
Як пялёсткі на рамонцы,
Мы сышліся ў цесны круг.
З поўдня, з захаду, з усходу
Ці з краёў паўночных ты,
Наша дружба — назаўсёды,
Ўсе мы — сёстры і браты.

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Пра што ў ёй гаворыцца?

2. Выканайце далонямі рытмічны малюнак запеву. Чым ён адрозніваецца ва ўсіх фразах? Праспявайце мелодыю запеву.

3. Вызначыце асаблівасць будовы прыпеву. Чаму кампазітар два разы паўтарыў апошні вершаваны радок?

4. Праспявайце песню. Адбярыце музычныя фарбы для выканання.

## ПАДАРОЖЖА ПРАЦЯГВАЕЦЦА. ЗАВІТАЕМ ДА СУСЕДЗЯЎ

На ўсходзе і поўдні Беларусь мяжуе з Расіяй і Украінай. У гісторыі беларускага, рускага і ўкраінскага народаў шмат агульнага. Музыка гэтых народаў вельмі блізкая.



Сярод украінскіх народных інструментаў шмат падобных на беларускія — скрыпка, цымбалы, бубен, ліра.

Украінскім народным песням уласцівы меладычнасць, распеўнасць, падгалосачнасць.

Асабліва блізкая каляндарна-абрадавая музыка славянскіх народаў. Гэта найбольш старажытныя ўзоры народнага мастацтва. Звычайна мелодыі гэтых песень вельмі кароткія. Яны вар'іруюцца пры выкананні.

## Шчэдрык
## Украінская народная песня

Апрацоўка М. Леантовіча

**Пытанні і заданні:**

1. Параўнайце ўкраінскую песню «Шчэдрык» з беларускай народнай песняй «Ішла Каляда». Што ў іх агульнага, што рознага?
2. Вызначыце зерне-інтанацыю песні. Запішыце яе на дошцы.
3. Праспявайце зерне-інтанацыю песні або выканайце яе на музычных інструментах. Упрыгожце яе гучаннем паўторнае праслухоўванне твора.



## Вниз по матушке по Волге
## Руская народная песня

Медленно, широко

*p*

Вниз по ма - ту - шке по Во... по
По ши-ро - ко - му раз-до... раз-

Во - лге, по ши - ро - ко - му раз-
до - лью, по-дни - ма - лась не - по-

до - лью.
го - да.

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце песню па нотах. Ахарактарызуйце музычную мову песні.

2. Параўнайце гэту песню з беларускай народнай песняй «Дубровушка ды зялёная». Што ў іх агульнага, што рознага?

3. Паспрабуйце адлюстраваць рух мелодыі пры дапамозе графічных ліній. Што ў вас атрымалася?

Песням беларускага, рускага і ўкраінскага народаў уласцівы шырыня мелодыі, свабода дыхання, распеўнасць і варыяцыйнасць.

## Моя Россия

Словы Н. Салаўёвай

Музыка Г. Струвэ















Для продолжения

а, а, а,

лив - ни льют - ся над Рос - си - ей,

Для продолжения

а, а,

нет зем - ли кра - си - вей.

Для окончания

а, а.

// нет зем - ли кра - си - вей.

У моей России длинные косички,
У моей России светлые реснички,
У моей России голубые очи —
На меня, Россия, ты похожа очень.

Припев:
Солнце светит, ветры дуют,
Ливни льются над Россией,

В небе радуга цветная —
Нет земли красивей.

Для меня Россия — белые берёзы,
Для меня Россия — утренние росы.
Для меня, Россия, ты всего дороже —
До чего на маму ты мою похожа.

Припев.

Ты, моя Россия, всех теплом согреешь,
Ты, моя Россия, песни петь умеешь,
Ты, моя Россия, неразлучна с нами,
Ведь Россия наша — это я с друзьями.

Припев.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва песню. Якім настроем яна прасякнута?

2. Ахарактарызуйце музычную мову твора. Якія рысы народнай музыкі ёй уласцівы?

3. Выканайце асноўную мелодыю песні. Размяркуйце дыханне ў адпаведнасці са зместам твора. Калі фраза доўгая, карыстайцеся ланцуговым дыханнем.

4. Асобна вывучыце падгалосак. Падзяліцеся на дзве групы для выканання прыпеву. Адной групе даручыце спяваць мелодыю, другой — падгалосак. Ці аднолькавая колькасць удзельнікаў павінна быць у групах? Чаму?

5. Музыка славянскіх народаў мае шмат агульнага. Назавіце падобныя рысы.

# ПОЛЬСКАЯ І ПРЫБАЛТЫЙСКАЯ МУЗЫКА

На захадзе і поўначы наша краіна мяжуе з Польшчай, Літвой, Латвіяй.

Польская музыка вылучаецца цеснай сувяззю песні і танца. Звычайна выканаўцы чаргуюць танцы з аднагалосымі спевамі. Адметнай рысай польскай танцавальнай музыкі з'яўляецца сінкопа.



**Сінкопа — гэта перанос акцэнту (націску) з моцнай долі на слабую.**

У польскай музыцы шырока ўжываюцца скрыпка, дуда і іншыя інструменты. Асаблівы каларыт ёй надаюць ударныя інструменты. Сярод іх — бубен, званочкі, бразготкі, драўляныя трашчоткі.

Сярод найбольш вядомых польскіх танцаў — мазурка і кракавяк. Мазурку лёгка пазнаць. У ёй спалучаюцца пункцірны рытм і трохдольны пульс (метр).



## Мазурка
## Традыцыйны польскі танец

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Вызначыце характэрныя асаблівасці польскай танцавальнай музыкі.

2. Падзяліцеся на дзве групы. Адна група выканае пульс (метр) танца, другая — яго рытмічны малюнак. Спалучыце пульс і рытмічны малюнак. Дадайце атрыманы акампанемент да гучання музыкі ў час паўторнага праслухоўвання.

Мазурка сустракаецца таксама ў беларускай музыцы. Гэты танец распаўсюджаны ў заходняй частцы Беларусі.

## Мазурка

Н. Сакалоўскі

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Параўнайце польскую і беларускую мазуркі. Што ў іх агульнага, што рознага?

2. Далучыце да мазуркі рытмічную партытуру, складзеную да папярэдняга твора. Ці падыходзіць яна да музыкі Нестара Сакалоўскага? Чаму?

Літоўскі і латышскі народы жывуць побач з Балтыйскім морам. Асаблівасцю іх музыкі з'яўляецца шматгалосае харавое спяванне без суправаджэння. У краінах Прыбалтыкі існуе шмат харавых калектываў.

Рэгулярна там праводзяцца Святы песні. Гэтыя святы збіраюць больш за некалькі тысяч удзельнікаў.



Свята песні ў Прыбалтыцы



## Холил конька я
## Літоўская народная песня









— Конёк ретивый,
Гнедой конёчек,
Понесёшь ли молодого,
Понесёшь ли далеко,
За сотню вёрст?
— Ой, парень, парень,
Парнишка добрый.
Понесу я молодого,
Понесу я далеко,
За сотню вёрст.

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце па нотах літоўскую народную песню.
2. Вызначыце асаблівасці яе музычнай мовы.
3. Параўнайце літоўскую народную песню з вядомымі вам беларускімі песнямі. Што ў іх агульнага, што рознага?

# МУЗЫЧНАЕ ПАДАРОЖЖА ПА ЕЎРОПЕ

Кожная з еўрапейскіх краін па-свойму прыгожая. Можна наведаць гістарычныя мясціны, народныя святы. Можна прыслухацца да гукаў прыроды і замежнай гаворкі. Можна прывезці дадому сувенір, які нагадае пра падарожжа.



Французскі дзіцячы хор

## У Авіньёне на мосце
## Французская народная песня

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Звярніце ўвагу на розны характар запеву і прыпеву.

2. Згадайце беларускую народную песню «Зайграй жа мне, дударочку». Параўнайце яе з французскай народнай песняй. Што ў іх агульнага, што рознага?

Вершы замежных паэтаў часта натхняюць беларускіх кампазітараў на стварэнне твораў. Напрыклад, Уладзімір Дамарацкі напісаў песню на словы французскай народнай паэзіі. Так культура іншых краін абагачае беларускую музыку.



## Ослик мой, быстрей шагай

Словы народныя
Пераклад з французскай мовы
Н. Гернет і С. Гіпіус

Музыка
У. Дамарацкага

Скоро
mf

1. Ос - лик мой, быст - рей ша - гай,
2. Ля, ля, ля, ля, ля, ля, ля.

быст - рей ша - гай.
Ля, ля, ля, ля.

Е - дем мы в да -
Ля, ля, ля, ля,

лё - кий край,
ля, ля, ля,

в да - лё - кий край.
ля, ля, ля, ля.


Что от - ту - да при - ве - зём?


При - ве - зём в ро - ди - мый дом


лом - тик сол - неч - ный в меш - ке,


1.
лом - тик лун - ный в у - зел - ке, лом - тик


2.
лун - ный в у - зел - ке.


лом - тик сол - неч - ный в меш - ке, лом - тик


лун - ный в у - зел - ке.



**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор. Ахарактарызуйце яго музычную мову.
2. Выканайце пульс і рытмічны малюнак песні. Што з'яўляецца адметнай рысай рытму песні?
3. Развучыце песню. Адбярыце музычныя фарбы для яе выканання. Складзіце выканальніцкі план.
4. Як вы лічыце, гэты твор належыць да беларускай або французскай культуры?

## МУЗЫЧНЫ СУВЕНІР З АФРЫКІ

Музыцы Афрыкі асаблівы каларыт надае рытм. Афрыканцы шырока выкарыстоўваюць ударныя ін-

струменты — барабаны, званочкі, бразготкі, трашчоткі, ксілафоны.

Цяжка ўявіць сабе існаванне афрыканскай музыкі без рухаў. Узбагачэнню рытму спрыяюць нават касцюмы выканаўцаў. Музыкі прывязваюць званочкі да пояса або ладыжак. Яны надзяваюць спадніцы з трыснягу. У час танца гэтыя прылады ствараюць дадатковы рытмічны малюнак.

Афрыканская музыка выконваецца групай музыкантаў. У ёй спевы чаргуюцца з гучаннем барабанаў. Звычайна запявае адзін з выканаўцаў, а астатнія ўтораць яму. Адметнай рысай музыкі з'яўляецца спалучэнне адразу некалькіх пульсаў (метраў). У выніку атрымліваецца перакрыжаваны рытм.





**Перакрыжаваны рытм — адначасовае спалучэнне некалькіх пульсаў і рытмаў у музыцы.**

## Сіяхамба
## Традыцыйная афрыканская песня

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Звярніце ўвагу на асаблівасці рытмічнага малюнка.
2. Складзіце рытмічную партытуру. Вылучыце некалькі груп выканаўцаў. Адвольна выберыце колькасць долей пульсу для кожнай групы.
3. Адначасова выканайце розныя пульсы, падкрэсліваючы моцныя долі. Вылучыце аднаго або двух салістаў з кожнай групы. Даручыце ім імправізаваць рытмічныя малюнкі.
4. Упрыгожце слуханне гучаннем бразготак, трашчотак і званочкаў.

Фарбы афрыканскай музыкі часта выкарыстоўваюцца кампазітарамі. Яны ўжываюць уласцівыя афрыканскай музыцы рытмы і тэмбры.

## Бьют тамтамы

Словы А. Барто — Музыка Г. Струвэ

Если в звуках рокотанье,
Тихий плеск речной волны —
Мы танцуем под тамтамы
Плавный танец тишины.

Если звонко в бурном ритме
Разговор ведет тамтам,
«Ты танцуй», — он говорит мне,
Он как будто пляшет сам.
Бьют тамтамы, бьют тамтамы.
Пляшут дети, папы, мамы,
Африканцы-старики пляшут,
На ногу легки.
Бьют тамтамы, бьют тамтамы,
Кончен день счастливый самый.
Но хотя замолк тамтам,
Ходит музыка тамтама
Вслед за нами по пятам.



**Тамтам — гэта вялікі афрыканскі барабан.**

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Які настрой яна выклікае?

2. Параўнайце характар запеву і прыпеву. Якая частка больш песенная, а якая больш танцавальная?

3. Асобна вывучыце рытмічны малюнак, які імітуе гучанне тамтама. Адпрацуйце паступовае ўзмацненне і змяншэнне гуку.

4. Прыдумайце танцавальныя рухі да песні. Прымацуйце званочкі да запясцяў для стварэння дадатковага рытмічнага малюнка.

5. Складзіце выканальніцкі план песні. Уключыце ў яго спевы, выкананне рытмічнага малюнка, тан-

цавальныя рухі. Паспрабуйце дасягнуць эфекту набліжэння і аддалення групы выканаўцаў. Як вы гэта зробіце?

## МУЗЫЧНАЕ ПАДАРОЖЖА Ў АМЕРЫКУ

Стагоддзі таму да амерыканскіх берагоў накіроўваліся шматлікія караблі. Яны везлі «чорнае золата» — рабоў з Афрыкі. У Амерыцы яны працавалі на плантацыях. Пра сваё цяжкае жыццё рабы спявалі ў песнях.

### Бавоўна чакае збору
### Традыцыйная працоўная песня



**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор. Вылучыце зерне-інтанацыю. Прасачыце за яе развіццём.

2. Параўнайце песню «Бавоўна чакае збору» з традыцыйнай афрыканскай песняй «Сіяхамба» і беларускай народнай песняй «Ох, і сеяла Ульяніца лянок». Што ў іх рознага, што падобнага?

Амерыканскі джаз захаваў шмат характэрных рыс афрыканскай музыкі. У ім адчуваюцца гайданне музычнага пульсу, «ірваныя» рытмы. Джазавая музыка вылучаецца асаблівым ладам. Для яго характэрна «мільгаценне» мажору і мінору.

Джазавая мелодыя складаецца з вельмі кароткіх фраз. Яны чаргуюцца, паўтараюцца, мяняюцца на працягу твора.



З цягам часу вылучыўся абавязковы склад ансамбля джазавай музыкі. Ён уключае трубу або саксафон, фартэпіяна, кантрабас або гітару, ударныя інструменты.

Кампазітары розных краін часта выкарыстоўваюць джазавыя інтанацыі ў сваіх творах.



## Джаз

Словы В. Суслава — Музыка Я. Дубравіна

Пе - ре-плыв Ат-лан - ти - ку, из - за о - ке - а - на

в день - ка-кой — не-ве - до-мо, в не - из-вест - ный час

вы - шел из мор-ско - го он си - не-го ту-ма - на,

тру - ба-ми свер-ка - ю - щий нег - ри - тян - ский джаз!


Припев:
Ах, э-тот джаз!
Зве - ня-щий джаз!

Он так ста-ра - ет - ся для нас.

Он так ста-ра - ет - ся для нас. Гре -

мит он каж - до - ю тру- бой, гре -

мит он каж - до - ю тру- бой: — Тан -

Для повторения
Для окончания
цуй и пой! Тан - цуй и пой!

Страны европейские
Дружно зароптали:
— Это что за музыка
Рвётся из окон?
Жили мы со скрипками —
Горюшка не знали.
Для чего, скажите нам,
Этот саксофон?

Припев.

Дни мелькали быстрые,
Складывались в годы.
Джаз гремел неистово,
Ухал барабан.
Дружат с ним давно уже
Разные народы
Африки, Америки,
Всех на свете стран.

Припев:

Ах, этот джаз!
Весёлый джаз!
Он жить не может без проказ! (2 р.)
И говорят о нём сейчас: (2 р.)
— Вот это класс!
Вот это класс!

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце мелодыю. Звярніце ўвагу на дасканаласць выканання рытмічнага малюнка.

2. Паспрабуйце выканаць мелодыю без пункцірнага рытму. Ці змяніўся яе характар?

3. Прасачыце за развіццём музыкі. Як на яе ўплывае «мільгаценне» мажору і мінору?

4. Якую ролю ў музыцы адыгрывае акампанемент? Упрыгожце выкананне песні рытмічным суправаджэннем. Падкрэсліце слабыя долі пульсу шчаўчкамі пальцаў. Моцныя долі падкрэсліце пляскannem у далоні або прытупваннем. Дадайце да выканання рытмічныя рухі.

Сёння джазавая музыка папулярная і ў нашай краіне. Яе асаблівасці кампазітары выкарыстоўваюць у сваёй творчасці. У выніку атрымліваюцца кампазіцыі «ў джазавым стылі».

## Заблукаўшы джаз

Дз. Лыбін

**Пытанні і заданні:**

1. Уважліва праслухайце твор. Якія рысы джазавай музыкі вы адчулі ў творы?

2. Якія шумавыя эфекты выкарыстаў кампазітар? Для чаго?

# МУЗЫЧНЫ СУВЕНІР З АЗІІ

Наведваючы краіны Азіі, немагчыма не захапляцца іх музыкай. Падарожніка прывабліваюць вытанчаныя мелодыі і мудрагелістыя рытмы.



Культура краін Азіі часта натхняе беларускіх кампазітараў на стварэнне музычных твораў. Кампазітар Сяргей Бельцюкоў напісаў сюіту «Кітайскія акварэлі для ўдарных інструментаў».

Вы ўжо ведаеце, што такое сюіта. Сюіта С. Бельцюкова складаецца з пяці частак: «Раніца», «Правінцыяльны пейзаж», «Поўдзень», «Гарадскі пейзаж», «Вечар».

## Вечар
## (з сюіты «Кітайскія акварэлі для ўдарных інструментаў»)

С. Бельцюкоў

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор. Якую карціну «малюе» музыка?
2. Ахарактарызуйце музычныя фарбы, якія выкарыстаў кампазітар. У чым іх асаблівасць?
3. Якой культуры — беларускай ці кітайскай — належыць гэты твор? Чаму?

Для музыкі краін Азіі ўласцівы асаблівы лад — пентатоніка.



**Пентатоніка — гукарад, які можна скласці з пяці чорных клавіш фартэпіяна.**

Пентатоніка сустракаецца ў найбольш старажытных узорах музыкі розных народаў. Аднак у большай ступені яна належыць музычнай культуры народаў Усходу. Менавіта таму яе часта называюць "кітайская гама". У Старажытным Кітаі пяць гукаў пентатонікі нават суадносіліся з пяццю асноўнымі стыхіямі або пяццю густамі.

У сваіх творах кампазітары часта выкарыстоўваюць пентатоніку. Яна дапамагае ім адлюстраваць карціны ціхамірнасці.



# Птицы над взморьем

Словы К. Тарыякі

Музыка Х. Рётара

**Не очень быстро**

*mp*

1. Даль мор - ску - ю скры - ла мгла,
2. В э - тих кри - ках боль тос - ки,

ту - чи так чер - ны.
веч - ный серд - ца зов.

Вмиг за - тми - ли два кры - ла
Сты - нут мок - ры - е пес - ки,

свет - лый лик лу - ны.
мра - чен туч по - кров.

Кри - ки ча - ек пред гро - зой
Но на - пра - сен их при - зыв,

бу - дят столь - ко дум!
без - от - ве - тен стон.




**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор японскага кампазітара Х. Рётара. Вызначыце яго будову. Колькі ў ім частак?

2. Прасачыце за развіццём мелодыі. Ці па ўсіх ступенях гукарада рухалася музыка?

3. Ахарактарызуйце мелодыю. Выяўленчая ці выразная інтанацыя ляжыць у яе аснове?

4. Развучыце песню. Складзіце выканальніцкі план.

## ЦУД КАЛЫХАНКІ

Ціха, кіска,
Ціха, братка,
У калысцы
Спіць дзіцятка.
Будзь жа добранькі, глядзі
Дзіцяня не разбудзі.

*А. Александровіч*

Калыханка — адна з самых распаўсюджаных у свеце песень. Яе спяваюць немаўлятам матулі ва ўсіх кутках планеты.

Калыханкі выконваліся, каб супакоіць, «прыспаць» дзіця. Дзеючымі асобамі ў іх былі жывыя істоты. Напрыклад, у нашай краіне — кот, зайка, голуб.

Матулі часта самі складалі калыханкі. Аднак часцей за ўсё яны вар'іравалі знаёмыя напевы. Старажытныя ўзоры калыханак насычаны гукаперайманнем і імправізацыяй.



## Калыханка
## Беларуская народная песня

А... а.., лю-лі. Спі, сы-но-чак мі-лень - кі,

га-лу-бо-чак сі-вень - кі. Мой сы-но-чак бу-дзе спаць,

а я бу-ду ка-лы - хаць.



Нашто, вецер, ты гудзеш,
Спаць Міхаську не даеш?
Спі, сыночак міленькі,
Ой, да люлі-люленькі...

Успомніш матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе у ноч не раз
Песню я спявала.

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце песню па нотах. Вызначыце яе пульс (метр). Ахарактарызуйце рытмічны малюнак. Што нагадваюць пульс і рытм песні?

2. Як трэба спяваць гэту песню? Падбярыце музычныя фарбы для яе выканання.

3. Выразна выканайце песню. Суправаджайце выкананне ігрой на трохвугольніку або званочках.

4. Якія яшчэ калыханкі вы ведаеце?

Калыханкі ёсць ва ўсіх народаў свету. Гэтыя песні ўвасобілі чалавечыя пачуцці — пяшчоту, ласку, любоў.

У кожнага народа калыханкі маюць свае асаблівасці. Гэта звязана з тым, што ў музыцы розных народаў свае інтанацыі і рытмы. Аднак усім калыханкам уласцівы пяшчотнасць і надзвычайнае хараство. Простая, напеўная, крыху манатонная мелодыя ідзе з глыбіні сэрца.



## Калыханка
## (з оперы «Поргі і Бес»)

Дж. Гершвін

**Пытанні і заданні:**

1. Уважліва прыслухайцеся да музыкі. Якія пачуцці перадае яна?
2. Якія характэрныя асаблівасці калыханкі вы пачулі?
3. Дзе ў музыцы адчуваецца «гайдаючы» рытм?
4. У “Калыханцы” Джордж Гершвін шырока выкарыстоўвае інтанацыі і прыёмы, якія ўласцівы джазавай музыцы. Якія з іх вы пачулі ў творы?
5. Паспрабуйце рухамі перадаць мяккае гайданне калыскі. Упрыгожце рухамі паўторнае праслухоўванне.

# Мальчик и сверчок

Словы Аспазіі

Музыка Р. Паулса

1. Скрип - нул свер-чок за печ-ко-ю, пел со-ло-вей за
реч - ко - ю, тра - вы зве - не - ли при лу - не,
а, мо-жет, э - то сни - лось мне, а, мо-жет, э - то
1.
сни - лось мне, а, мо-жет, э - то сни - лось
2.
мне. Где о - ты - щу е - ё тог - да?

Храбрый сверчок, ты мне скажи,
Что там упало в камыши?
Если блестящая звезда,
Где отыщу её тогда?

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор латышскага кампазітара Раймонда Паулса. Які настрой адчуваецца ў музыцы?

2. Развучыце мелодыю з дапамогай нотнага запісу. Як вы будзеце спяваць — плаўна ці адрывіста?

3. Прыдумайце рытмічны акампанемент, выкарыстоўваючы званочкі і трохвугольнік.

4. Якія рысы калыханкі вы можаце вызначыць у гэтай музыцы?

5. Параўнайце творы, якія гучалі на гэтым уроку. Што ў іх агульнага, што рознага?

## ВЯРТАННЕ ДАДОМУ

Мы вясну чакаем,
Мы вясну гукаем:
— Прыходзь, вясна!
З ручайком бурлівым,
З рэчкай гаманлівай
Прыходзь, вясна!

*А. Дзеружынскі*

Нашы продкі з нецярплівасцю чакалі прыходу вясны. Яны прыкладалі шмат намаганняў, каб яго наблізіць. Ад таго, калі прыйдзе вясна, залежаў дабрабыт селяніна.

Дзяўчаты спявалі вясновыя песні-заклічкі. Яны выходзілі на высокае месца, каб гуканне было далёка чуваць.



Вясновыя песні простыя, кароткія, часта заканчваюцца воклічамі «У-у-у!». Гэтыя воклічы адбіваюцца рэхам у лесе, ад берагоў рэк і пагоркаў.

Птушкі лічыліся вестунамі вясны. З іх прылётам вясна канчаткова ўступала ў свае правы. Нашы продкі надавалі асаблівае значэнне вяртанню птушак дадому. Для гэтага існаваў спецыяльны абрад — «Саракі».

Жаваранкі і кулікі былі першымі, хто вяртаўся дадому.



## Жаваронaчкі, прыляціце
## Беларуская народная песня

Жа - ва - ро - нач - кі, пры - ля - ці - це, вяс - ну
крас - ну - ю пры - ня - сі - це, каб со - ней - ка за - свя -
снег бе - лы рас - та -
ці - ла, каб //
пі - ла, каб са - дзі - кі рас - цвя - ці - ла.

Жаваронaчкі, прыляціце,
Зямлю-матухну абудзіце
І дожджыкам напаіце,
Каб травачкі нарасціла,
Каб волікаў накарміла.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Яна быццам складаецца з дзвюх частак. Кожная частка мае сваю ладавую афарбоўку. Дзе адчуваецца мажорны, а дзе мінорны лад?

2. На працягу песні змяняецца пульс. Спачатку ён трохдольны, потым — двухдольны, а ў канцы — зноў трохдольны. Як называецца гэтая асаблівасць народнай музыкі?

3. Песня выкладзена ў ладзе, які складаецца з пяці гукаў. Як ён называецца? У музыцы якога народа вы з ім сустракаліся?

4. Спяванне вясновых песень суправаджалася падкідваннем на абрусе печыва ў выглядзе птушак. Выканайце рухі, якія імітуюць падкідванне абруса ўгору. Дадайце іх да выканання песні.

Прыгожыя вясновыя абрады часта натхнялі беларускіх кампазітараў на стварэнне музыкі.





# Мы ідзём гукаць вясну

Словы І. Цітаўца — Музыка В. Сярых

**Не вельмі хутка, ласкава, з цеплынёй**



На-прад-вес-ні пе-вень пес-ні за-лі-ва-ец-ца–пя-е.



Звон-кай пес-няй на-прад-вес-ні ён вяс-ну да нас за-ве.



Хоць зі-ма вяс-не не ра-да, па-ра-тун-ку ёй ня-ма.



Хоць са-лод-ка-я у-ла-да, ды не веч-на-я я-на.

Прыпеў:



За-клі-ка-ем на пры-вол-ле вас, свя-ты-я Са-ра-кі!



Ад-чы-няй-це лес і по-ле, снег га-ні-це да ра-кі.



За-ды-мі-ся, чай з блі-на-мі, а-бу-дзі-ся, свет, ад сну!




Разляцяцца сум і скруха,
Як прадвесне загудзе.
Позняй лёгкай завірухай
Час вясенні прывядзе.
Свет, у радасці прачніся,
Аднаўляйся і квітней!
У абноўкі апраніся —
Будзеш казкай для дзяцей.

Прыпеў.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Які настрой вы адчуваеце ў музыцы?

2. Праспявайце песню. Ці адрозніваецца музыка ў запеве і прыпеве?

3. Прыдумайце верхні падгалосак для прыпеву. Выкарыстайце паступенны сыходны рух ад гуку «мі» да гуку «ля». Вызначыце на слых месцы, дзе гукі

будуць мяняцца. Выканайце прыпеў песні з падгалоскам.

4. Выканайце вокліч-прызыў: «У-у-у!» Праспявайце яго спачатку разам. Пасля падзяліцеся на некалькі груп. Паспрабуйце выканаць вокліч так, каб атрымаўся эфект рэха. Якія сродкі музычнай выразнасці вы выкарысталі?

## АБАГУЛЬНЕННЕ ТЭМЫ ТРЭЦЯЙ ЧВЭРЦІ

Музыка — мова зносін паміж народамі. Пры дапамозе музычнай мовы людзі могуць успрымаць і разумець адно аднаго. Гэта спрыяе наладжванню добразычлівых адносін паміж людзьмі.

Беларусь — шматнацыянальная краіна. У ёй у адзінай сям’і жывуць розныя народы. Кожны з іх мае сваю музычную культуру.

У гісторыі славянскіх народаў — рускага, беларускага, украінскага — шмат агульнага. Таму іх музыка вельмі падобная адна на адну. Якія агульныя рысы музыкі славянскіх народаў вы ведаеце? Прывядзіце музычныя прыклады.

Культура суседніх краін заўсёды ўплывала на музыку нашай краіны. У ёй знайшлі ўвасабленне вострыя польскія рытмы і прыбалтыйскія традыцыі харавых спеваў. Якія музычныя прыклады яскрава сведчаць пра гэта?

Вы пазнаёміліся з дзіўнымі афрыканскімі рытмамі. Ці знайшлі яны адлюстраванне ў творах еўрапейскіх аўтараў? Да якой музыкі — еўрапейскай ці афрыканскай — можна аднесці гэтыя творы?

Прыгажосць «усходняй» інтанацыі вылучае азіяцкую музыку. Нязвыкла «афарбаваныя» творы кампазітараў распавядаюць пра знаёмыя вам пачуцці. Пра што расказала вам японская музыка? Як вы зразумелі яе змест?

Спалучэнне дзіўных рытмаў і інтанацый — характэрная рыса амерыканскага джаза. Апынуўшыся на нашай зямлі, джаз знайшоў сваё месца ў творчасці беларускіх аўтараў. Прывядзіце прыклады адпаведных твораў.

Калыханкі існуюць у музыцы ўсіх народаў. Яны заўсёды пяшчотныя, трапяткія, спакойныя. Параўнайце беларускую, латышскую і амерыканскую калыханкі. Што ў іх агульнага, што рознага?

Вясновыя абрады захаваліся ў музычнай культуры Беларусі са старажытных часоў. Гэта своеасаблівыя лісты з мінулага. З іх дапамогай можна даведацца пра жыццё нашых продкаў. Якія вясновыя песні і абрады вы ведаеце? Як іх трэба выконваць?

Збярыце калекцыю з найбольш цікавых твораў для слухання і выканання. Абгрунтуйце свой выбар.

У музыцы ўсіх народаў адлюстраваны аднолькавыя пачуцці і думкі. Нягледзячы на яе разнастайнасць, музыка зразумелая кожнаму чалавеку.

# ЧАЦВЁРТАЯ ЧВЭРЦЬ
# Кампазітар — выканаўца — слухач

## ЯК ПРАЦУЕ КАМПАЗІТАР?



Кампазітар — гэта чалавек, які стварае музыку. Сёння вы паспрабуеце зазірнуць у яго творчую майстэрню і нават самі станеце кампазітарамі.

Крыніцамі, якія заўсёды творча натхнялі кампазітараў, былі вобразы роднай прыроды, карціны жыцця народа, свет чалавечых пачуццяў.

Звычайна кампазітар стварае мелодыю самастойна. Аднак часам ён ужывае мелодыю, якая ўжо гучала раней. Такі прыём называецца цытаванне. У ролі цытаты можа выступаць мелодыя іншага аўтара або народная.



### Калыханка
### Беларуская народная песня

Апрацоўка Я. Медыня

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Мелодыю якога народа выкарыстаў латышскі кампазітар?

2. Вы ўжо спявалі гэтую беларускую народную песню. Што ў ёй змянілася ў творы Я. Медыня?

3. Згадайце іншыя творы, дзе кампазітары цытавалі мелодыі.

Стварыўшы мелодыю, кампазітар імкнецца зрабіць яе больш разнастайнай, развівае яе. Напрыклад, ён можа змяняць, вар'іраваць яе.

З вар'іраваннем вы не раз сустракаліся на ўроках музыкі.

Кампазітар таксама можа змяніць музычныя фарбы (лад, рытмічны малюнак, сілу гуку, тэмп). Калі твор напісаны для аркестра, кампазітары часта мяняюць афарбоўку гуку — тэмбр. Для гэтага яны даручаюць выкананне мелодыі розным інструментам.



**Сядзіць камар на дубочку**
**Беларуская народная песня**






Сядзіць камар, напявае,
Чорных мушак забаўляе,
Ай, люлі-люлі-люлі,
Чорных мушак забаўляе.

Наляцела злая бура,
Камара з лісточка здула,
Ай, люлі-люлі-люлі,
Камара з лісточка здула.







Тут дзве мушкі падляталі,
Камара пад ручкі бралі,
Ай, люлі-люлі-люлі,
Камара пад ручкі бралі.

Камара пад ручкі бралі,
Ў дом вялі, ў пасцельку клалі,
Ай, люлі-люлі-люлі,
Ў дом вялі, ў пасцельку клалі.

**Пытанні і заданні:**

1. Праспявайце песню. Вызначыце змест кожнага куплета. Як змест можа ўплываць на характар музыкі?

2. Паспрабуйце самастойна стварыць варыяцыі. Падбярыце музычныя фарбы для выканання першага куплета.

3. Выканайце другі куплет. Пра што гаворыцца ў ім? Змяніце музычныя фарбы (тэмп, сілу гуку).

4. У трэцім куплеце мяняйце музычныя фарбы (тэмп, сілу гуку, лад) у адпаведнасці са зместам песні. Вар'іруйце мелодыю ў чацвёртым куплеце. Выканайце мелодыю ў змененым выглядзе.

5. Стварыце тэмбрава-рытмічныя варыяцыі. Падбярыце музычныя інструменты ў адпаведнасці са зместам кожнага куплета. Прыдумайце рытмічныя партыі для кожнага інструмента. Запішыце іх на дошцы.

6. Упрыгожце выкананне песні тэмбрава-рытмічнымі варыяцыямі.

# БЕЛАРУСКІЯ КАМПАЗІТАРЫ

Беларускія кампазітары плённа працуюць у розных галінах музычнага мастацтва. Яны ствараюць песні, оперы, балеты, сімфанічную музыку.

Першы прафесійны беларускі кампазітар — Мікалай Чуркін. У яго творчасці знайшлі адлюстраванне карціны народнага быту, беларускія краявіды. М. Чуркін быў не толькі кампазітарам, але і таленавітым мастаком.



Мікалай Чуркін
(1869—1964)



## Сімфаньета «Беларускія карцінкі» (фінал)

М. Чуркін

**Пытанні і заданні:**

1. Якія карціны паўстаюць перад вамі ў час слухання музыкі? Якія музычныя фарбы выкарыстаў кампазітар для іх увасаблення?

2. Вы ўжо ведаеце беларускія народныя інструменты. Якія з іх вы пазналі падчас гучання твора?

3. Падбярыце музычныя інструменты для акампанементу. Выканайце пульс музыкі і рытмічны малюнак на абраных інструментах.



4. Упрыгожце паўторнае слуханне выкананнем рытмічнага суправаджэння.

З імем Яўгена Глебава звязаны выдатныя дасягненні беларускага музычнага мастацтва. Творчасць кампазітара шматгранная і разнастайная. Значнае месца ў ёй займае музыка да балетных спектакляў. Адзін з найбольш вядомых яго балетаў — «Альпійская балада». Гэты твор прысвечаны падзеям Вялікай Айчыннай вайны.



Яўген Глебаў
(1929—2000)

Ён распавядае пра лёс вязняў канцэнтрацыйнага лагера — італьянскай дзяўчыны Джуліі і беларускага юнака Івана.

## Тарантэла
## (з балета «Альпійская балада»)

Я. Глебаў

Тарантэла — італьянскі народны танец. Выкананне тарантэлы суправаджаецца ігрой на тамбурыне. Тамбурын — гэта разнавіднасць маленькага барабана.



**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор. Ахарактарызуйце музычную мову тарантэлы. Якія музычныя фарбы выкарыстаў кампазітар?

2. Падбярыце інструменты для рытмічнага суправаджэння. Падкрэсліце моцныя долі пры паўторным праслухоўванні.

3. Як вы лічыце, гэты твор належыць беларускай ці італьянскай культуры?



Ігар Лучанок
(нар. у 1938 г.)

Творчасць Ігара Лучанка — значная з'ява ў музычным мастацтве Беларусі. Кожны ведае яго песні «Спадчына», «Мой родны кут», «Алеся», «Хатынь» і іншыя. «У кожнай песні, — прызнаецца кампазітар, — я імкнуся, каб быў праменьчык святла... Бо ўсё, аб чым я пішу, — гэта дзеля жыцця».

## Жураўлі на Палессе ляцяць

Словы А. Ставера

Музыка І. Лучанка

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце песню. Вызначыце галоўную ідэю твора. Якімі сродкамі кампазітар увасабляе яе?

2. Якія гукапераймальныя інтанацыі вы пачулі ў музыцы?

3. Згадайце песню У. Алоўнікава «Радзіма, мая дарагая». Параўнайце яе з творам І. Лучанка. Ці падобныя яны? Што агульнага ў творчым почырку кампазітараў?

## ХТО ТАКІ ВЫКАНАЎЦА?

Вы ўжо ведаеце, як працуе кампазітар. Вынік яго працы існуе ў выглядзе нотнага запісу. Для таго, каб пераtварыць нотныя радкі ў гучанне музыкі, патрэбны выканаўца. Ён, быццам чараўнік, можа «ажывіць» музыку.

Выканаўцы — гэта тыя, хто спявае або іграе на музычных інструментах. Усе яны адраджаюць, выклікаюць да жыцця музычныя творы. Але ці кожнага, хто ўмее спяваць або іграць, можна назваць выканаўцам?

**Сапраўдны выканаўца ўкладвае ў спевы або ігру частку сваёй душы. Яго мастацтва кранае душу слухача, уплывае на яго.**



Ні́кало Паганіні
(1782—1840)

Гісторыя захавала звесткі пра выдатнага скрыпача Ні́кало Паганіні. Яго выканальніцкае майстэрства было надзвычайным. Паганіні нават абвінавачвалі ў тым, што яму дапамагаюць незямныя сілы. На жаль, мы толькі можам уяўляць, як гучала скрыпка ў яго руках. Але засталося шмат твораў для скрыпкі, якія стварыў Ні́кало Паганіні.

## Кампанэла

Н. Паганіні

**Пытанні і заданні:**

1. Кампанэла ў перакладзе з італьянскай мовы азначае «званочак». Як вы лічыце, чаму гэты твор мае такую назву?
2. Уважліва праслухайце твор. Ахарактарызуйце музычныя фарбы, якія выкарыстаў Н. Паганіні.
3. Праслухайце “Кампанэлу” Н. Паганіні—Ф. Ліста. Што змянілася ў музыцы? Ці захаваўся яе характар?

Талент выканаўцы не залежыць ад узросту. Маленькі італьянскі спявак Раберці́но Ларэці пакарыў свет сваімі натхнёнымі спевамі. Яны з’яўляюцца непараўнальным узорам выканальніцкага мастацтва.

## Санта Лючыя
## Італьянская народная песня

**Пытанні і заданні:**

1. Ці адчуваеце вы настрой гэтай музыкі? Якую ролю ў гэтым адыгрывае выкананне Р. Ларэці?

2. Чаму ў розных выканаўцаў музычны твор гучыць па-рознаму?

3. Каб стаць сапраўдным выканаўцам, неабходна ўдасканальваць выканальніцкае майстэрства. Вы ўжо ўмееце спяваць і іграць на музычных інструментах. Якія выканальніцкія ўменні вы ведаеце?





## Мы з табой ішлі?

Словы Л. Пранчака — Музыка В. Войціка

**Хутка, весела** *mf*

Мы з та-бой і - шлі?

І-шлі.

Та-лер но-вень-кі знай - шлі?

Ну, знай-шлі.

Я та-бе я-го ад-даў?

Ну, ад-даў.

Ты ў кі-шэнь я - го па - клаў?

Ну, па-клаў.

Да - ста - вай, не траць-ма ча-су! Мы на та-лер ку-пім ква-су!

Мож-на так пы - тайць бяс - кон - ца,

по-куль аж не зой-дзе сон-ца! А што

Мож - на так пы -

да - лей? А што да - лей?

тайць бяс - кон - ца, по-куль аж не зой-дзе сон-ца?

Мож-на так пы - тайць бяс-кон - ца, по - куль аж не




**Пытанні і заданні:**

1. Паспрабуйце стаць сапраўднымі выканаўцамі. Вызначыце галоўную думку твора. Падумайце, як можна яе данесці да слухача.

2. Складзіце выканальніцкі план. Якія часткі твора могуць выканаць салісты? Якія хор? Дзе можна выкарыстаць гутарковыя фразы, не парушаючы характару песні? Якія выканальніцкія ўменні вам спатрэбяцца?

3. Развучыце двухгалоссе. Упэўнена выканайце асноўную мелодыю. Падтрымайце гучанне другога голасу ігрой на ксілафоне, металафоне.

4. Вылучыце салістаў. Выканайце першую частку песні па ролях. Дадайце да выканання гучанне хору. Упрыгожце спевы выразнымі рухамі і мімікай.

# БЕЛАРУСКІЯ ВЫКАНАЛЬНІЦКІЯ КАЛЕКТЫВЫ І ВЫКАНАЎЦЫ

У нашай краіне шмат выдатных выканальніцкіх калектываў і выканаўцаў. Многія з іх ужо вам знаёмы.

Адным з найбольш вядомых калектываў з'яўляецца Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь.



Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр
Рэспублікі Беларусь

У аркестры больш за 100 выканаўцаў. Яны іграюць на розных музычных інструментах. На чале аркестра стаіць дырыжор. Ён інтэрпрэтуе музычны твор і складае яго выканальніцкі план.



**Інтэрпрэтацыя — гэта тлумачэнне, якое выканаўца дае музычнаму твору на аснове нотнага запісу.**

## Святочная уверцюра

Я. Глебаў

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце музычны твор. Прасачыце за развіццём музыкі.

Далёка за межамі нашай краіны вядома выканальніцкае майстэрства Ігара Алоўнікава. Творчая дзейнасць выдатнага музыканта разнастайная. Ігар Алоўнікаў актыўна папулярызуе нацыянальнае музычнае мастацтва. Ён выступае як піяніст і арганіст. Прафесійныя музыканты добра ведаюць яго пераладжэнні музычных твораў розных аўтараў.



Ігар Алоўнікаў
(нар. у 1954 г.)

## Марш драўляных салдацікаў (з «Дзіцячага альбома»)

П. Чайкоўскі
Пераладжэнне для аргана І. Алоўнікава



**Пытанні і заданні:**

1. Вам ужо вядомы гэты твор. Параўнайце яго гучанне на фартэпіяна і на аргане. Што змянілася ў музыцы?

2. Ахарактарызуйце музычныя фарбы, якія выкарыстаў выканаўца. Як яны ўплываюць на характар музыкі?

## ЯК НАВУЧЫЦЦА СЛУХАЦЬ МУЗЫКУ

Музычнае мастацтва не можа існаваць без слухача. Сапраўдны слухач — гэта той, хто ўмее распазнаць сэнс музыкі. Аднак, каб стаць сапраўдным слухачом, неабходна вучыцца. Сёння вы даведаецеся, як можна раскрыць сакрэты музыкі.

У шматлікіх творах музыка спалучаецца са словамі. Словы дапамагаюць зразумець змест музычнага твора.

## Пра Мышку і кніжку

Словы І. Муравейкі Музыка А. Чыркуна



Мама Мыш купіла кніжку
Для сваёй дачушкі Мышкі:
— Час табе ужо за парту —
На, грызі навуку ўпарта.
Мама Мыш прыйшла з работы:
— Без мяне рабіла што ты?
Адказала маме Мышка:
— Натамілася я з кніжкай,
Гэтулькі было мне мукі,
Але згрызла ўсю навуку.

**Пытанні і заданні:**

1. Які настрой выклікае ў вас музыка? Ці дапамагае тэкст зразумець змест твора?
2. Якія выканальніцкія фарбы можна адабраць для песні? Чаму?
3. Выканайце песню. Зрабіце замалёўку да музычнага твора. Прыдумайце працяг сюжэта.

Некаторыя музычныя творы маюць назву. Такая музыка называецца праграмнай. Музыка быццам сама падказвае, пра што яна будзе распавядаць.

# Дом з прывідам
# (фрагмент)

Дз. Лыбін





**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Што можна ўявіць у час гучання музыкі?

2. Гэты твор выконвае віяланчэль. Вы ўжо ведаеце, як гучыць гэты інструмент. Ахарактарызуйце гучанне віяланчэлі ў гэтым творы. Чаму кампазітар выкарыстаў нязвыклыя прыёмы гучання?

3. Выкажыце свае ўражанні аб творы. Параўнайце іх. Ці ёсць у вашых выказваннях нешта агульнае? Што рознае? Чаму?

Часам музыка не мае канкрэтнай назвы. Такая музыка дае прастору фантазіі. Яна дазваляе больш свабодна ўяўляць музычныя вобразы.

## Сімфонія № 40
## (фрагмент)

В. А. Моцарт

Вы ўжо пазнаёміліся з сімфоніяй. Гэты буйны твор дазваляе адлюстраваць усе чалавечыя думкі і пачуцці.



Вольфганг Амадэй Моцарт (1756—1791)

Вольфганг Амадэй Моцарт — славуты аўстрыйскі кампазітар. На працягу свайго жыцця ён стварыў шмат твораў. Музыка Моцарта — трапяткая і пяшчотная, яскравая і жыццярадасная, жалобная і насычаная смуткам. Яна ўвасабляе мару чалавека пра шчасце.

Сімфонія № 40 — адзін з найбольш пранікнёных твораў кампазітара. Яе музыка прасякнута ўсхваляванымі інтанацыямі, энергіяй і воляй.

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце ўважліва твор. Які настрой ён у вас выклікаў? Падбярыце словы, якія адпавядалі б характару музыкі.

2. Зрабіце «колеравую выяву» музыкі — замалюйце яе настрой.

3. Параўнайце свае малюнкі. Ці атрымаліся яны падобнымі? Што ў іх агульнага, што рознага?

Вы ўжо ведаеце, што чалавек жыве ў свеце, які напоўнены гукамі.

**Неабходна ўважліва прыслухоўвацца да гукаў навокал. Гэта дапаможа лягчэй пазнаць іх у музыцы.**



**Пытанні і заданні:**

1. Паслухайце, як гучаць галасы птушак у лесе. Адны з птушак спяваюць звонка, радасна, другія — нізка, затоена. Згадайце ўжо знаёмы вам верш П. Пранузы “Раніца ў лесе”.

2. Паспрабуйце голасам імітаваць спевы птушак. Выкарыстайце высокі, сярэдні, нізкі рэгістры.

3. Вылучыце ў тэксце верша гукаперайmальныя інтанацыі.

4. Падбярыце музычныя інструменты для імітавання пошуму лесу, звону кропель расы.

5. Падзяліцеся на групы. Стварыце гукавую карціну «Раніца ў лесе».

**Калі слухаеце музыку, нішто не павінна вам перашкаджаць.**

Паспрабуйце ўслухацца ў кожны гук музыкі, кожную інтанацыю, прасачыце за яе развіццём.

Адчуйце настрой музыкі.

Асэнсуйце тое, штó выклікала гэты настрой.

Раскажыце пра свае ўражанні ад гучання музыкі, адлюструйце іх у малюнку, прыдумайце невялікае апавяданне, стварыце пластычную кампазіцыю.

# КУПАЛЬСКІ ВЯНОК

А на Купалу
Рана сонца іграла —
Рана сонца іграла
На добрыя гады,
На цёплыя росы,
На хлябы-ўраджаі.



Хутка прыйдзе Купалле — адно з самых прыгожых беларускіх свят.

З ім у нашых продкаў было звязана шмат павер'яў. Лічылася, што ў гэтую ноч расцвітае цудоўная папараць-кветка, можна ўбачыць багацці ў нетрах зямлі.

Купальскае свята вылучаецца вельмі прыгожымі абрадамі.

У вечар перад Купаллем дзяўчаты плялі вянкі. Яны пускалі іх на ваду і назіралі, куды вянок паплыве. Такім чынам можна было вызначыць, ці выйдзе дзяўчына замуж.

## Купалінка
### Беларуская народная песня

**Пытанні і заданні:**

1. Праслухайце твор. Якім настроем ён прасякнуты? Вылучыце музычныя фарбы, якія ствараюць атмасферу купальскага свята.
2. Якія характэрныя рысы народнай музыкі адчуваюцца ў песні? Якімі выканальніцкімі сродкамі спевакі падкрэсліваюць яе характар?

Ноччу дзяўчаты і хлопцы скакалі цераз вогнішча. Лічылася, што гэта ачышчае ад злых духаў.





# Ой, рана на Йвана
## Беларуская народная песня

Шырока

*mp*

1. Ой, ра - на на Йва - на, ой, ра - на
на Йва - на. Про - ці Йва - на ноч - ка ма - ла,
ой, ра - на на Йва - на, ой, ра - на на Йва - на.

**Пытанні і заданні:**

1. Пры дапамозе нотнага запісу вылучыце зерне-інтанацыю. Ахарактарызуйце яе. Замалюйце інтанацыю на дошцы.

2. Выканайце па нотах мелодыю песні. Паспрабуйце праспяваць яе канонам.

3. Стварыце падгалоскі да песні. Для гэтага затрымайце пачатковыя гукі кожнай фразы. Вытрымайце гук да канца фразы.

4. Размяркуйце дыханне пры выкананні. Выкарыстайце ланцуговае дыханне на доўгіх гуках.

Свята завяршалася раніцай. Людзі назіралі, як сонца іграе ў вадзе рознакаляровымі фарбамі.



**Сёння Купала, а заўтра Ян**
**Беларуская народная песня**

**Пытанні і заданні:**

1. Сем фарбаў — гэта сем гукаў. Паспрабуйце розныя варыянты іх гучання. Гукі можна выконваць па чарзе або аднačасова. Стварыце эфект пераліваў розных колераў у вадзе.
2. Накладзіце створаную «гукавую пляму» на гучанне песні. Што змянілася ў музыцы?
3. Спляціце прыгожы «вянок» з купальскіх песень. Выкарыстайце ўжо вядомыя вам музычныя формы.

Музыка дапамагае нам адчуць сябе часткай народнай культуры.

# АБАГУЛЬНЕННЕ ТЭМЫ ЧАЦВЁРТАЙ ЧВЭРЦІ

Музыка не існуе без кампазітара, выканаўцы і слухача.

Кампазітар стварае музыку і запісвае яе на нотных радках. У працы кампазітара ёсць свае сакрэты. Раскажыце пра іх.

Многія з беларускіх кампазітараў сусветна вядомыя. Яны ствараюць музыку ў самых розных жанрах. Іх творы гучаць ва ўсім свеце. З творчасцю якіх беларускіх аўтараў вы пазнаёміліся? Якія іх творы вам найбольш спадабаліся?

Выканаўца «ажыўляе» музыку. Ён ператварае нотны запіс у дзіўны свет гукаў і чалавечых пачуццяў. Існуюць пэўныя якасці, якія вылучаюць сапраўднага выканаўцу. Якія з іх вы ведаеце?

Беларусь багатая таленавітымі выканальніцкімі калектывамі і выканаўцамі. Многія з іх маюць шматгадовую гісторыю. Іх выканаўчае майстэрства высока ацэнена на Радзіме і за яе межамі. Якія беларускія выканальніцкія калектывы і выканаўцы вам запомніліся?

Слухач раскрывае сакрэты музыкі. Ён здольны зразумець яе сэнс. Для таго, каб стаць сапраўдным слухачом, трэба навучыцца слухаць музыку. Раскажыце, як лепш гэта зрабіць.

Народнае мастацтва дае магчымасць адначасова стаць кампазітарам, выканаўцам і слухачом. Згадайце, як вы стваралі, выконвалі і слухалі музыку купальскага абраду.

Падбярыце калекцыю найбольш цікавых твораў для слухання і выканання. Абгрунтуйце свой выбар.

Музыка — ваш спадарожнік у час канікулаў. З ёю будзе больш прыемна адпачываць і працаваць. Яна дапаможа вам набыць новыя веды і пазнаёміцца з новымі сябрамі.

## ЗМЕСТ

## ТРЭЦЯЯ ЧВЭРЦЬ
## Музычныя падарожжы

**ЧАЦВЁРТАЯ ЧВЭРЦЬ**
**Кампазітар — выканаўца — слухач**

_______________________________________________

Назва і нумар школы

| Вучэбны год | Прозвішча і імя вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| | | | |
| | | | |


Вучэбнае выданне

**Гуляева** Алена Рыгораўна
**Прастакова** Святлана Аркадзьеўна
**Кабачэўская** Святлана Міхайлаўна

# Музыка

Вучэбны дапаможнік для 4 класа
агульнаадукацыйных устаноў з беларускай
і рускай мовамі навучання

Рэдактар *Т. У. Фармакідава*
Мастак вокладкі *Д. М. Матарыкін*
Мастакі *Дз. А. Кавалёў, Д. М. Матарыкін*
Тэхнічныя рэдактары *Т. У. Фармакідава, Н. М. Хаманеева*
Камп'ютэрны набор *А. Р. Гуляева, Н. М. Хаманеева*
Камп'ютэрная вёрстка *Н. М. Хаманеева*
Карэктар *З. П. Петрушэня*

Падпісана ў друк 21.05.2008. Фармат 70×90 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура Pragmatica.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,53. Ул.-выд. арк. 4,9. Тыраж 61656. Заказ № .

РУП «Выдавецтва “Адукацыя і выхаванне”». ЛИ № 02330/0131935 ад 10.04.2007.
220070, г. Мінск, вул. Будзённага, 21.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП № 02330/0056853 ад 30.04.2004.
220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.